Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4880) 22 ліпеня 2016 г.



# Каб пачулі

Бывае так, што ў імгненне чыйсьці лёс становіцца блізкім, нібыта гэта сваяк, — і перажываеш, і спачуваеш, і слёзы наварочваюцца… Ёсць выпадкі, калі людзі з пэўнай супольнасці адчуваюць адзін аднаго. Нават калі належаць розным пакаленням, прытрымліваюцца розных поглядаў на жыццё, калі іх падзяляе экран ці вялікая адлегласць. Але навіны пра нашых, сваіх (быццам родных) чапляюць, кранаюць — і тым аб'ядноўваюць. Тады няма межаў, каб перажываць за сваіх, эмоцыі перасягаюць адлегласці, прыходзіць разуменне, што народ — гэта той жа наш род, вялікая сям'я. У ёй усё разам: і радасці, і выпрабаванні. Нават калі іх праходзіць за ўсіх нехта адзін.

Моцны, упэўнены — хочацца ўслухацца, паверыць. Але вакол шмат з гучным голасам і сваімі поглядамі на сумленную творчасць, адметных і таленавітых, што сцвярджаюць сябе і даказваюць здольнасць быць у прафесіі пазнавальным. Спачатку — для гледачоў сваіх нацыянальных тэлеканалаў, потым на больш шырокай прасторы, з вялікай аўдыторыяй, якая мае сваіх куміраў, слухае іх з даверам і адданасцю. Пасунуць кагосьці складана, як і данесці сваю творчую праўду. Але калі яна моцная, нават аўтарытэтныя «профі» могуць прызнаць: лепшы.

Мала аднойчы праявіць сябе ў нейкім відзе творчасці, умець спяваць, навучыцца прамаўляць, пісаць ці выказвацца ў мастацтве. Мала перамагчы аднойчы. Быць пераможцам — гэта значыць працягваць несці свае тэмы і працаваць над чыстым і сумленным гучаннем нягледзячы на тое, ці гатовыя да гэтага ўсе навокал (яны могуць не ведаць, што ім насамрэч трэба). Гэта значыць быць сабой, калі большасць спявае нібыта з аднаго штучнага голасу, але розніца заўсёды адчуваецца пры магчымасці параўнання. Застацца непераможаным — гэта значыць рабіць у жыцці справы, каб для людзей, з якімі звязаны агульным паходжаннем, не губляўся сэнс таго, што іх аб'ядноўвае. Нездарма ёсць Імёны…



Фота БелТА.

**10, 10, 10, 10… Найвышэйшыя балы ад многіх членаў журы на кункурсе маладых выканаўцаў «Віцебск-2016» для Аляксея Гроса не сталі заспакаяльнымі. Як і Гран-пры, здабыты ў шчыльным, але сумленным спаборніцтве, што адзначыў старшыня журы Валерый Лявонцьеў. Беларускі спявак збіраецца ўдасканальваць сваё прафесійнае майстэрства ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, дзе хоча авалодаць прафесіяй рэжысёра масавых святаў, паведамляе БелТА. Да гэтага маладога артыста падштурхнуў удзел у фестывалі «Славянскі базар у Віцебску».**

Працяг тэмы на стар. 4 — 5

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку СССР Людмілу Чурсіну. «Яркі талент, прафесійнае майстэрства і непаўторнае абаянне прынеслі Вам заслужаную славу і велізарную любоў гледачоў. Вобразы, створаныя Вамі ў кіно і тэатры, вызначаюцца выразнасцю, дакладнасцю і натхнёнасцю», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Венесуэла адкрыта для любых культурных праектаў з Беларуссю, адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь Хасэ Хаакін Багіяна Перычы падчас адкрыцця выстаўкі ў гонар Франсіска дэ Міранды ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Пасол выказаў словы ўдзячнасці за цёплы прыём і дружалюбныя адносіны, якія звязваюць Венесуэлу і Беларусь.

✔ Дзень беларускага пісьменства ў 2017 годзе прыме Полацк, паведаміла журналістам віцэ-прэм'ер Наталля Качанава перад пасяджэннем Міжведамаснага экспертна-каардынацыйнага савета па турызме пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Сімвалічна, што якраз у 2017-м будзе адзначацца і 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. На думку віцэ-прэм'ера, Полацк павінен стаць турыстычнай Меккай — для гэтага ёсць усё неабходнае.

✔ Арганізатары конкурсу на стварэнне твораў для драматычнага тэатра «Францыск Скарына і сучаснасць» чакаюць убачыць інтэлектуальныя працы, незвычайныя жыццяпіс першадрукара, зазначыў мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксандр Гарцуеў. Аўтары могуць прадставіць працы па пяці намінацыях: гістарычная п'еса, сучасная п'еса, п'еса па матывах, інсцэніроўка, сцэнічная ідэя. Конкурс працягнецца да 31 жніўня. Твор-пераможца, магчыма, будзе пастаўлены ў РТБД, які з'яўляецца ініцыятарам праекта.

✔ Адкрыты пленэр мастакоў «Маладзечна АРТ-2016» і рэспубліканскі пленэр скульптараў па камені «Вернісаж камянёў» адбудуцца ў жніўні ў Маладзечне. Абодва мерапрыемствы — частка рэспубліканскай акцыі «Маладзечна — культурная сталіца Беларусі 2016 года». Мастакі з Беларусі, Арменіі, Ізраіля, Кітая і Літвы будуць тварыць на працягу двух тыдняў і падораць гораду свае некаторыя творы. Скульптары ж будуць працаваць месяц. Сем беларускіх майстроў створаць кампазіцыі, якія ўпрыгожаць і горад, і раён.

✔ З 25 ліпеня па 2 жніўня ў вёсцы Гарадная Столінскага раёна адбудзецца V Міжнародны пленэр ганчароў, удзельнікамі якога стануць 30 майстроў керамікі з Беларусі, Расіі, Украіны, Арменіі, Літвы і Польшчы. На пленэр запрошаны як сусветна вядомыя ганчары, якія працуюць у традыцыйных тэхніках і адраджаюць старажытныя рамёствы, так і керамісты-наватары.

✔ Царкву-данжон і рысталішча для рыцарскіх турніраў узновяць на Замкавай гары ў Мсціславе да абласнога фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі «Дажынкі», які адбудзецца ў горадзе-музеі ў верасні. Як паведаміў доктар гістарычных навук, прафесар Ігар Марзалюк, на тэрыторыі Замкавай гары разгорнуты працы па ўзнаўленні гістарычнай забудовы XII — XIV стагоддзяў з элементамі музеефікацыі.

## Імпрэза

# Падарункі для Шагала

### У Віцебску створаць яшчэ адзін музей, звязаны з імем сусветна вядомага мастака

Нядаўна частку вуліцы Праўды перайменавалі ў вуліцу Марка Шагала. Тут і ствараюць музей — у доме, дзе месцілася Віцебскае народнае мастацкае вучылішча, якім у свой час кіраваў мастак. Такім чынам яго земляні рыхтуюцца адзначыць 130-ю гадавіну з дня нараджэння знакамітага на ўвесь свет творцы, актыўна рэалізуюць некаторыя ідэі па яго ўшанаванні.

Адной з такіх ідэй стала правядзенне Шагалаўскага пленэру ў межах святкавання 129-годдзя з дня нараджэння мастака. Самы першы пленэр у гонар мастака з Віцебска арганізавалі ў 1994 годзе. Сёлета ўжо трэці — пасля 19-гадовага перапынку! Удзел узялі 10 мастакоў з Беларусі, Расіі, Латвіі і Германіі.

— Мастакі падарылі музею свае творы розных жанраў — гэта была адзіная ўмова з боку арганізатараў. Удзельнікі пленэру з сусветнай вядомасцю. Адразу адгукнуліся на прапанову каля 10 дзён папрацаваць на малой радзіме Шагала. Упэўнена, было цікава: набраліся ўражанняў, як кажуць, надыхаліся паветрам Шагала. Мы таксама атрымалі безліч станоўчых эмоцый, якія значна пераважаюць выдаткі ў працэсе падрыхтоўкі: тэхнічныя і фінансавыя, — адзначыла Ірына Воранава, дырэктар установы культуры «Музей Марка Шагала ў Віцебску».

У арганізатараў ёсць намер правесці наступны пленэр праз год — такім чынам, традыцыя адраджаецца.



Фота Віктара Нікалаева.

Падчас свята «У гасцях у Марка і Бэлы».

І ёсць адна нязменная: штогод да дня нараджэння мастака ў двары дома-музея Марка Шагала ладзіцца свята «У гасцях у Марка і Бэлы». Галоўныя героі — артысты ў вобразах мастака і яго жонкі. Заўсёды ў праграме гэтага «камернага мерапрыемства» — яўрэйскія песні, танцы, выступленні музыкаў, літаратараў.

У самім музеі можна ўбачыць прадметы побыту мяжы XIX — XX стагоддзяў, копіі архіўных дакументаў, фота... Гэты дом на Пакроўскай вуліцы ў пачатку 1900-х гадоў пабудаваў бацька мастака Захар Мордухавіч. У 2017-м будзе 20 гадоў, як у ім адкрыты «Музей Марка Шагала ў Віцебску».

**Аляксандр ПУКШАНСКІ**

## Набыткі

# У скарбонку культуры

### Беларускія лаўрэаты прэміі Саюзнай дзяржавы

**У рамках правядзення XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» былі ўручаныя прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2015 — 2016 гады. Разам з мастацкім кіраўніком ансамбля «Сябры» Анатолем Ярмоленкам прэмію за альбом «Дзе каліна цвіла» атрымалі беларускі паэт, уладальнік літаратурнай прэміі «Залаты купідон» Іван Юркін і кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Алег Елісеенкаў.**

Прэміяй Саюзнай дзяржавы за стварэнне помніка святейшаму патрыярху Аляксію ІІ у Мінску адзначаны аўтарскі калектыў у складзе протаіерэя, архітэктара, настаяцеля Усіхсвяцкага прыхода Мінска Фёдара Поўнага, беларускага архітэктара і культуролага Ігара Марозава і скульптара Уладзіміра Слабодчыкава. Яго скульптуры захоўваюцца ў музеях і галерэях Беларусі, Расіі, Італіі і іншых краінах.

Лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы таксама стаў народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага сімфанічнага аркестра імя П. І. Чайкоўскага Уладзімір Федасееў за праект «Песні ваенных гадоў».

Тры прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва былі заснаваныя ў красавіку 1999 года і прысуджаюцца раз у два гады за вялікі ўклад ва ўмацаванне адносін паміж краінамі — удзельніцамі Саюзнай дзяржавы.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

## У пісьменніцкім асяродку

# Жыццё і мудрасць на паперы

Чалавек, які стварае прозу для дзяцей, напісаў кнігу пра старажытных філосафаў, ды з гумарам, яшчэ і ў вершах… Ці магчыма такое? Цалкам магчыма! Гаворка — пра сёлетняга юбіляра, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктара Рашкевіча, які днямі адзначыў 70-годдзе.

У галіне дзіцячай літаратуры Віктар Фёдаравіч працуе асабліва плённа. З-пад пяра пісьменніка выйшла цэлая серыя казачных гісторый пра падарожжы і прыгоды разумнага і дапытлівага лісяняці Фокі. Кнігі паспелі палюбіцца і дзецям, і дарослым. Вынік — заслужаная ўзнагарода: медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», які Віктару Рашкевічу падчас творчай вечарыны ў Доме літаратара ўручыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

— Каб пісаць для дзяцей, аднаго мастацкага таленту недастаткова, — заўважыў на сустрэчы старшыня секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзімір Мазго. — Трэба яшчэ валодаць жыццёвым досведам, багатай фантазіяй, умець бачыць свет вачыма дзіцяці.

Сябру СПБ Галіне Нічыпаровіч удаюцца творы і для дзяцей, і для дарослых. Пацвярджэннем таму — кнігі пісьменніцы.

«Ты прославляешь Нёмана красу / И прелесть узденского края. / Твои стихи любовь несут / К травинке и к цветку, не уставая…» Такія радкі прысвяціла паэтэсе Галіне Нічыпаровіч яе сяброўка Валянціна Шытыка. А нагодай для гэтага стала прэзентацыя дзвюх новых кніг Галіны Міхайлаўны: «Гісторыі бабулінага дзяцінства» і «Невычэрпная ніць памяці». Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла наша чытачка Вера Лукашэвіч.

«Гісторыі бабулінага дзяцінства»… Чаго вартая адна назва! Адразу нібыта вяртаешся ў дзяцінства, калі на канікулах гасцяваў у бабулі, а яна старалася прыгатаваць што-небудзь смачненькае ў печы. А яшчэ вучыла жыць. Вось і Галіна Міхайлаўна, прымерыўшы на сябе ролю мудрай бабулі, успомніўшы час, калі сама была гарэзлівай дзяўчынкай, у вершах і апавяданнях перадала свае назіранні за ўнучкамі, вясковымі дзецьмі. Тут і котка, якая не захацела гуляць у футбол, і бульба, якая замяняла горкія лекі, і кактус, які палохаў іголкамі…

— Я заўсёды прыслухоўвалася да слоў бабулі, — адзначыла дырэктар Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса Аксана Драчан. — Бо ведала: кепскага яна не параіць. Вось і ў творах Галіны Міхайлаўны шмат павучальных гісторый.

Кнігу «Невычэрпная ніць памяці» Галіна Нічыпаровіч прысвяціла сяброўцы Тамары Дзесюкевіч, якая год таму пайшла з жыцця.

— Яе паважалі ў нашай вёсцы, хоць жыла і працавала ў сталіцы, — узгадала Галіна Нічыпаровіч. — Гэта яна, Тамара, чытаючы мае вершы і замалёўкі, пастаянна паўтарала, што нешта ёсць у маёй мове…

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

*Канферэнцыя*

# Яна лічыла сябе беларускай…

## Магдалена Радзівіл: роля асобы ў развіцці традыцый мецэнацтва

**Для таго каб развіць беларускую дзяржаўнасць, неабходна прыцягнуць да гэтага працэсу маладое пакаленне: самабытнасцю, мовай і культурай. Такую думку выказаў першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — Выканаўчага сакратара СНД Уладзімір Гаркун на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Магнаты і шляхта Вялікага Княства Літоўскага», прысвечанай 155-годдзю з дня нараджэння Магдалены Радзівіл. Асветніцтва і мецэнацтва, іх уплыў на нацыянальнае адраджэнне Беларусі — асноўныя тэмы, што ўздымаліся падчас пасяджэння ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.**



Фота Юліі Сярмяжка.

*Выступае Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук, прафесар, ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.*

— Беларусь ужо даўно пацвердзіла сваю самабытнасць, і некалькі плыняў мастацкага адраджэння толькі ўзмацняюць імкненне беларусаў да зацвярджэння нацыянальнай самасвядомасці, — адзначыў прафесар Адам Мальдзіс. — Ці можа жыць чалавек без уласнага імя? Праз яго мы асэнсоўваем сябе. Мы, наш народ, у час Магдалены Радзівіл згубілі сваё імя, але назве нашай краіны ўжо амаль восемсот гадоў, і сама Магдалена лічыла сябе беларускай.

З Мікалаем Радзівілам у Магдалены быў другі шлюб, да якога яна падышла заможнай жанчынай. Дзяўчыну аддалі за добрага знаёмага яе бацькі Людвіга Красінскага, які быў старэйшы на дваццаць гадоў. У іх нарадзілася дачушка. Хутка бацька, а потым і муж памерлі, распавёў журналіст і пісьменнік Віктар Хурсік пра жыццёвы шлях Магдалены. Усю спадчыну бацька завяшчаў ёй. Некалькі маёнткаў, юрыдычныя адносіны з арандатарамі — усё патрабавала выхаванасці, ведання замежных моў. У той перыяд Магдалена нават не думала пра другі шлюб. У 1904 годзе яна паехала на адпачынак у Лондан, дзе пазнаёмілася з юным вайскоўцам Мікалаем Радзівілам, які быў нашмат маладзейшы за Магдалену. Але пачуцці захапілі так, што хутка зарэгістравалі шлюб.

Мікалай падтрымліваў традыцыі мецэнацтва, далучылася і Магдалена. Звестак пра іх ахвяраванні засталося няшмат: у тыя часы мецэнацтва было нелегальным, адначасова і своеасаблівай формай пратэсту і рэалізацыяй духоўнага абавязку перад грамадствам. Але вядома, што Магдалена падтрымлівала выдавецтва «Загляне сонца і ў нашае ваконца», адкрывала беларускія школы, сялянскія магазіны, таварыства цвярозасці, спрабавала арганізаваць шпіталі для беднякоў. Яна імкнулася адрадзіць беларускую мову: усе свае справы княгіня вяла па-беларуску, а таксама многія творы маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў выйшлі ў свет дзякуючы ёй.

Мецэнаты адыгрывалі значную ролю ў развіцці культуры і адукацыі ў розныя часы. Больш за тое, гісторыя мае шмат прыкладаў, калі простыя людзі прымалі ўдзел у гэтым працэсе: некаторыя драўляныя храмы ў вёсках былі пабудаваны за кошт яе жыхароў. Цяпер мецэнацтва шырока распаўсюджана, у тым ліку і народнае: набірае моц такая з'ява, як краўдфандынг: людзі самі абіраюць цікавыя для іх праекты, беручы адказнасць за выбар. Гэта спрыяе развіццю нацыянальнай свядомасці, адкрыццю новых напрамкаў у культурным жыцці краіны.

Развіццю мецэнацтва садзейнічаюць канферэнцыі і іншыя падзеі, падчас якіх людзі маюць магчымасць гаварыць пра культуру беларускай зямлі і пра выдатных асоб, як Магдалена Радзівіл, што дапамаглі ствараць Беларусь, якую мы бачым цяпер. Як адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кыргызскай Рэспублікі Курбанычбек Амуралієў, калі людзі ведаюць гісторыю роднага краю, ім прасцей, абапіраючыся на досвед продкаў, вырашаць сучасныя праблемы.

**Юлія РУДЗЕНКА**

*Спадчына*

# Пад покрывам стагоддзяў

## Унікальныя фрэскі на фасадах касцёла Божага Цела ў Нясвіжы адрэстаўрыруюць

**Падчас работ па рэканструкцыі касцёла Божага Цела ў Нясвіжы на галоўным і бакавых фасадах будынка былі знойдзены фрэскі з геральдычнымі і графічнымі выявамі. Знаходкі датуюцца двума перыядамі: апошняя чвэрць XVI стагоддзя і XVIII стагоддзе, калі праводзілася рэканструкцыя Нясвіжскага замка і касцёла па загадзе Міхаіла Казіміра Рыбанькі.**

Падобныя роспісы фасадаў сустракаюцца на старадаўніх будынках у Еўропе, але ў Нясвіжы гэта стала адкрыццём. Знаходка — унікальная для нашай краіны, лічаць спецыялісты ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

— На фасадах касцёла знойдзены геральдычныя, сакральныя, сюжэтныя роспісы, а таксама графічныя арнаменты, — пацвердзіла намеснік начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Аксана Сматрэнка. — Але гэта толькі папярэднія сведчанні: пакуль што не ўсе фрагменты раскрыты.

Работы з фрэскамі могуць адсунуць здачу праекта на нявызначаны тэрмін. Праектам рэканструкцыі касцёла займаецца ААТ «Белрэстаўрацыя» па замове УКБ Нясвіжскага райвыканкама, паведаміла Аксана Сматрэнка. Таварыства з'яўляецца адзіным спецыялізаваным прадпрыемствам на тэрыторыі Беларусі ў рэстаўрацыйнай дзейнасці. Сярод завершаных праектаў кампаніі — Мірскі замак, Сафійскі сабор у Полацку і Траецкае прадмесце. Спецыялісты «Белрэстаўрацыі» ўжо распрацоўваюць план работ (яго павінны скласці да верасня). Праект складаны: рэстаўратарам трэба адрозніць аўтэнтычныя элементы ад далучэнняў XVIII стагоддзя і звесці іх у агульную карціну.

Касцёл Божага Цела ў Нясвіжы ўключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, а таксама з'яўляецца складовай часткай аб'екта Спіса сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА «Архітэктурны, культурны і жылы комплекс роду Радзівілаў у Нясвіжы».

**Юлія РУДЗЕНКА**

*Дайджэст*

• Каштоўную знаходку з невялікай іспанскай вёскі прадставіў юрыст Санчэс. У вольны час ён шукае гістарычныя дакументы, звязаныя з грамадзянскай вайной у Іспаніі 1936 — 1939 гадоў. Аматар-гісторык знайшоў журналісцкае пасведчанне на імя французскага пісьменніка Антуана дэ Сэнт-Экзюперы, выдадзенае рэспубліканскімі ўладамі Іспаніі ў 1937 годзе. Сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці знаходжання класіка сусветнай літаратуры ў Іспаніі: сваім месцам пражывання ён пазначыў адзін з гатэляў Мадрыда, дзе звычайна спыняліся пісьменнікі і журналісты, што асвятлялі падзеі грамадзянскай вайны. Таксама ў пасведчанні пазначаная прафесія Экзюперы: лётчык і клерк. Апошняе вызначэнне тлумачыцца тым, што тагачасныя чыноўнікі няправільна пераклалі французскае напісанне слова «пісьменнік» і вырашылі, што маюць справу з клеркам.

• Унікальная выстаўка рэдкіх асобнікаў Карана рыхтуецца ў Вашынгтоне. Сумесны праект належыць музеям Турцыі і Злучаных Штатаў Амерыкі. Пра тое, калі бясцэнныя экспанаты будуць дастаўленыя ў ЗША, арганізатары выстаўкі з асцярожнасці не паведамляюць. Пакуль вядома, што наведвальнікі змогуць убачыць каля сямідзесяці ўнікальных экспанатаў, большасць з якіх уяўляе сабой манускрыпты і фаліянты. Узрост многіх з іх — каля тысячы гадоў. Папярэдне адкрыццё выстаўкі прызначанае на сярэдзіну кастрычніка.

• Увосень гэтага года пабачыць свет кніга Джона Р. Р. Толкіна — зборнік вершаваных твораў. Паэтычны зборнік ужо выходзіў семдзесят гадоў таму, але з тае пары не перавыдаваўся. У змест кнігі, якую ўжо чакаюць тысячы «талкіністаў», уключаная «Балада пра Артру ды Іртрун», напісаная Толкінам па матывах брэтонскіх легенд. Твор поўніцца каларытнымі героямі, сярод якіх — казачная кельцкая ведзьма. Дасведчаны чытач пазнае ў гэтым вобразе рысы вядомага з «Уладара пярсцёнкаў» персанажа — эльфійскай чараўніцы. Іншыя паэтычныя творы таксама збольшага створаныя па матывах фальклорнай спадчыны розных еўрапейскіх народаў.

• Незвычайную справу разгледзеў гарадскі суд Петразаводска. На лаве падсудных апынулася юная паэтэса, якая перыядычна размяшчае свае творы ў інтэрнэце. Адзін з вершаў прыцягнуў увагу праваахоўнікаў. У ім аўтарка адкрыта выказала сваё стаўленне, далёка не пазітыўнае, да прадстаўнікоў народаў Каўказа. Заканчваецца твор заклікам даволі жорстка абыходзіцца з кожным спатканым каўказцам. Суд палічыў, што такім чынам аўтарка заклікае суграмадзян да дзеянняў экстрэмісцкага характару і спрыяе распальванню міжнацыянальнай варожасці. Але прысуд вынесены мяккі: дваццаць тысяч рублёў штрафу.

• Навукоўцы-археолагі знайшлі на поўдні Ізраіля старажытныя могілкі і выявілі падчас раскопак каля 160 магіл філістымлян — старажытнага народа, які згадваецца ў Біблії. Прафесар археалогіі Даніэл Майстар распавёў журналістам, што за доўгія гады даследаванняў яму і яго камандзе даводзілася знаходзіць дамы філістымлян, прадметы побыту, але такое вялікае пахаванне знойдзенае ўпершыню. Магчыма, гэта дазволіць даведацца больш пра паходжанне загадкавага народа. Раскопкі вяліся сакрэтна, а пра выяўленне магіл прафесар наважыўся распавесці толькі праз тры гады.

• Кнігарня *Hangzhou Zhongshuge bookstore*, размешчаная ў кітайскім горадзе Ханчжоў, выкарыстала незвычайны дызайн: кніжныя паліцы падымаюцца з падлогі да столі па скругленых сценах, утвараючы такім чынам кніжны тунэль. Арыгінальны інтэр'ер прадставіла шанхайская студыя *XL-Muse*. Натхненне дызайнеры знайшлі падчас шпацыраў па прыбярэжным раёне Чжэн Юань: арачныя масты тут адлюстроўваюцца ў вадзе, ствараючы цікавую аптычную ілюзію. На думку спецыялістаў з *XL-Muse*, масты — вызначальны фактар культуры і гандлю, а інтэр'ер кнігарні ілюструе сувязь паміж людзьмі і кнігамі. На самой столі кніжныя паліцы адсутнічаюць: іх падзяляе вузкі зазор, які адлюстроўваецца ў чорным люстэрку, — сімвал ракі, што вядзе чытача ў свет літаратуры.



# Базар — імя. Месца пастаяннай

**Вось ужо чвэрць стагоддзя споўнілася фэсту, якому няма аналагаў у свеце. Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», што прайшоў у 25 раз, сабраў тысячы зорак, самадзейных артыстаў, палітыкаў. Абласны цэнтр з насельніцтвам менш як 400 тысяч чалавек па традыцыі стаў на некалькі дзён культурнай сталіцай не толькі Беларусі, але і еўраазіяцкага кантынента. На працягу 9 дзён у старажытным горадзе, які па ўзросце саступае толькі Полацку, панавала свята мастацтваў.**



Фота Віктара Нікалаева.

*Амфітэатр у чаканні гледачоў.*

## «САПРАЎДНАЕ, ШЧЫРАЕ, ДУШЭЎНАЕ СВЯТА»

Афіцыйна фэст праводзіўся з 14 па 18 ліпеня. Але па традыцыі да старту і фінішу «базару» артысты выступаюць на галоўнай сцэнічнай пляцоўцы, у музеях прэзентуюцца выстаўкі, ладзіцца тэатральная праграма.

Самы першы — сольны канцэрт Сяргея Лазарава ў Летнім амфітэатры — прайшоў з аншлагам 12 ліпеня. Апошні — Дзіяны Арбенінай і гурта «Начныя снайперы» — скончыўся ў ноч з 20 на 21 ліпеня.



Фота з сайта festival.vitebsk.by.

*Удзельнік конкурсу «Віват, аркестр!».*

На адкрыцці фестывалю прысутнічаў Прэзідэнт Беларусі. Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што ўнікальны культурны праект — равеснік суверэннай Беларусі:

— Ён развіваецца разам з краінай, і ў ім, як у люстэрку, адбіваецца кожны этап станаўлення маладой дзяржавы. Гэта свята ўвасабляе наша духоўнае багацце. Адкрытасць і цікавасць да культуры розных народаў.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што юбілейны фэст стаў цэнтральнай падзеяй аб'яўленага ў Беларусі Года культуры. І дадаў, што насамрэч фестываль можна параўноўваць з Алімпійскімі гульнямі. Бо, як і спорт, мастацтва спрыяе міру… Прэзідэнт адзначыў, што заслуга фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» таксама і ў прыцягненні ў нашу краіну тысяч турыстаў, умацаванні яе станоўчага іміджу, ажыўленні эканомікі. А свет такім чынам знаёміцца з Беларуссю, яе нацыянальнай культурай і гасцінным народам. Самае галоўнае, што кожны год фестываль дорыць мільёнам людзей сапраўднае, шчырае, душэўнае свята — свята дружбы, радасці, весялосці, творчасці, якое доўга жыве ў нашых сэрцах. Як падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, гэтае свята спалучае класіку і сучаснасць, павагу да традыцый і свабоду мастацкага пошуку.

На цырымоніі адкрыцця Аляксандр Лукашэнка ўручыў узнагароды дзеячам мастацтва Беларусі, Расіі і Украіны, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё фестывалю. Спецыяльную ўзнагароду Прэзідэнта Беларусі «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення» атрымаў Міхаіл Фінберг, народны артыст Беларусі, дырэктар і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. У гонар гэтага таксама па добрай традыцыі ля амфітэатра ўсталявалі гранітную імянную зорку. Цяпер гэта «Плошча зорак» (былая алея).

## УПЕРШЫНЮ НА ФЕСТЫВАЛІ

На 25-м фестывалі паставілі некалькі рэкордаў і шмат чаго адбылося ўпершыню. У прыватнасці, у фэсце сёлета бралі ўдзел прадстаўнікі 45 краін — вось такі геаграфічны рэкорд. Упершыню арганізавалі ўрачыстую цырымонію ўзняцця сцяга фестывалю — ля Летняга амфітэатра. Гонару падняць сцяг удастоілі ўладальніка Гран-пры конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2015» Дзімаш Кудайберген з Казахстана. У дзень адкрыцця фэсту прайшоў першы «базарны» конкурс «Віват, аркестр!»

Надоўга запомніцца прэм'ерны праект «1000 вершаў пра Віцебск». Гэты паэтычны праект не мае аналагаў. Бесперапынна сотні людзей чыталі вершы на працягу 14,5 гадзіны! Сярод тых, хто пажадаў паўдзельнічаць у паэтычным марафоне, былі і кіраўнік дырэкцыі «Славянскага базару ў Віцебску», прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі фестываляў Аляксандр Сідарэнка, вядучая канцэртных праграм фэсту Алена Спірыдовіч, іншыя зоркі… Акцыю прысвяцілі памяці віцебскага паэта Давіда Сімановіча. Ён вельмі шмат зрабіў для вяртання імя Шагала на малую Радзіму, сябраваў са знакамітымі пісьменнікамі і паэтамі. Давід Рыгоравіч быў ініцыятарам усталявання помнікаў літаратарам і героям кніг. На жаль, многае з задуманага ім не рэалізавалася.

Сёлета ўпершыню арганізавалі і «Славянскі забег», у якім бралі ўдзел людзі розных узростаў. Дыстанцыю пераадолелі і людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Дасягненні фэсту ўвойдуць у Кнігу рэкордаў «базару», якая ўжо ствараецца.



## За «жывое»

**Гучанне Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі стала ў Віцебску традыцыяй: менавіта гэты калектыў спрыяў заснаванню і развіццю фестывалю. І стаў той зоркай, што ўвасабляе «жывую» песню, для якой у наш прасунуты тэхнічны час застаецца месца на эстрадзе. Гэта значыць, для песні, якую спяваюць пад аркестр. «Славянскі бараз у Віцебску» — той фестываль, дзе гучыць жывы гук, і гэтым можна ганарыцца, адзначыў дырыжор, прафесар Міхаіл Фінберг у сувязі з адкрыццём імяной зоркі калектыву, якім ён кіруе, сярод іншых уганараваных удзельнікаў фестывалю. Аркестр, што разам з фестывалем ад яго пачатку, з самых першых крокаў, стварыў шмат канцэртных праграм разам з беларускімі і замежнымі артыстамі. Але ў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі на фестывалі асаблівая роля: ён сёння дапамагае маладым выканаўцам праходзіць праз конкурсныя выпрабаванні, за 25 гадоў паспрыяў выхаванню шматлікіх артыстаў з розных краін. Многія былыя беларускія канкурсанты «Славянскага базару ў Віцебску» працавалі ў Нацыянальным канцэртным аркестры Беларусі і з'яўляюцца яго салістамі зараз. Таксама гэты калектыў дапамагаў фестывалю здабываць шырокую славу ў сусветнай культурнай прасторы. Нездарма ўганараванне сяброў фэсту мае назву «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення».**

# Славянскі — прозвішча

## прапіскі — горад Віцебск

### ПОСПЕХ БЕЛАРУСКІХ КАНКУРСАНТАЎ

Сёлета, як, бадай, ніколі раней, гледачы вельмі ўважліва сачылі за конкурсамі фестывалю «Славянскі базар у Віцебску». Адрозненне дзіцячага конкурсу сёлета ў параўнанні з папярэднімі гадамі ў тым, што ўпершыню выступала толькі адна зорачка з краін-заснавальніц фэсту. Беларусь прадстаўляла Настасся Жабко з Мінска. І заваявала першую прэмію. Гран-пры XIV Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу (5 тысяч долараў) — у расіянкі Настассі Гладзілінай.

Наконт маладых выканаўцаў. Інтрыгай заставалася, ці атрымае Гран-пры беларус Аляксей Грос. А гэта ж значыць, што яшчэ і 20 тысяч долараў. За два дні выступлення ў фінале ён набраў усяго на 2 балы больш, чым спявак з Казахстана. Члены журы, улічыўшы, што ўзровень канкурсантаў прыкладна аднолькавы, маглі і не назваць уладальніка Гран-пры. У выніку падчас канцэрта закрыцця фэсту ўсе пытанні былі зняты. Старшыня журы Валерый Лявонцьеў асабіста павіншаваў беларускага спевака Аляксея Гроса і пажадаў яму творчых поспехаў і новых перамог. 26-гадовы хлопец не збіраецца спыняцца на ўдзелах у конкурсах, марыць «прабіцца» на «Еўрабачанне» ад Беларусі.

Пераможца конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2016» Аляксей Грос падзяліўся ўражаннямі:

— Цяжка выказаць усё, што зараз адчуваю. Канешне, гэта вялікае дасягненне, што я перамог такіх моцных канкурэнтаў. Прэміяльныя грошы планую патраціць пераважна на творчасць. У прыватнасці, папоўніць рэпертуар шлягерамі. Для спевака гэта вельмі важна. Таксама збіраюся вось ужо ў чацвёрты раз паспрабаваць выйграць Нацыянальны адборачны тур "Еўрабачання". У 2014-м і 2015-м гадах, а таксама сёлета быў фіналістам беларускага адбору.

Аляксей Грос падчас фестывалю падарыў Але Пугачовай беларускія вышыванкі і яе генеалагічнае дрэва. Прымадонна была вельмі задаволена дарагім для яе эксклюзіўным падарункам. Палатно даўжынёй 1,5 метра ўтрымлівае інфармацыю пра ўсіх членаў роду Алы Пугачовай. Гэтае генеалагічнае дрэва на працягу 30 гадоў ствараў стрыечны дзядзька Пугачовай, які жыве на Браншчыне. Каманда артыста з Беларусі дапамагла яму аформіць падарунак. Прымадонна расчулілася: яна не хавае, што мае карані на Магілёўшчыне.



Фота з сайта festival.vitebsk.by.

Валерый Лявонцьеў уручае «Залатую ліру» Аляксею Гросу.



Уладальніца Гран-пры дзіцячага конкурсу Настасся Гладзіліна (Расія) і старшыня журы Віктар Бабарыкін.

### БЛІЗКАСЦЬ ЗОРАК

Падзеі фэстывалю «Славянскі базар у Віцебску» асвятлялі сёлета больш за 500 прадстаўнікоў СМІ з 10 краін.

На «базары» прэзентавалі фотаальбом «Усе колеры ліпеня» з лепшымі фота за гады правядзення фэсту. Кіраўнік дырэкцыі Аляксандр Сідарэнка назваў выданне «гісторыяй, летапісам»... У альбоме 150 здымкаў, якія зрабілі больш за 30 аўтараў з 6 краін. Сярод іх і два фатографы з Выдавецкага дома «Звязда». На фота пазаштатнага аўтара Віктара Нікалаева — Прэзідэнт краіны на цырымоніі закрыцця фестывалю летась. На здымку Анатоля Клешчука — французская спявачка Патрыцыя Кас. Гэтыя ж фатографы — аўтары і многіх іншых здымкаў. Альбом зрабілі пры падтрымцы Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва СНД, якім кіруе Палад Бюль Бюль аглы.

Вядомыя дзеячы мастацтваў выказалі думкі наконт таго, што значыць для іх віцебскі фестываль.

Валерый Лявонцьеў прызнаўся, што «Славянскі базар у Віцебску» для яго родны, а мясцовая публіка — свая, «хатняя», заўсёды прымае так, нібыта нікуды з Віцебска не з'язджаў. Народнаму артысту Расіі прыемна, што 25 гадоў таму ён выступіў з сольным канцэртам яшчэ да афіцыйнага адкрыцця самога фестывалю.

Сяргей Лазараў не забыў, як 20 гадоў таму ўпершыню выступіў на фестывальнай сцэне ў складзе дзіцячага калектыву. Віцебск яму спадабаўся адразу.

Міхаіл Турэцкі назваў фестываль краінай любові і сяброўства. А гораду Віцебску прысудзіў тытул чэмпіёна ў «спаборніцтве» за права быць культурнай сталіцай шырокай прасторы.

Сяргей Шусціцкі, кампазітар і вядучы, ганарыцца тым, што яго акорды гучаць перад усімі фестывальнымі мерапрыемствамі.

Аляксандр Прошкін, знакаміты рэжысёр кіно, сёлета ўпершыню пабываў на фестывалі «Славянскі базар у Віцебску». Яго прыемна здзівіў горад: тут ўсюды хоць нешта, ды адбываецца. І нават у 5 гадзін раніцы віруе жыццё: людзі вяртаюцца з канцэртаў у добрым настроі.

Фестываль толькі прайшоў, а ў дырэкцыі ўжо працуюць над планам наступнага «Славянскага базару ў Віцебску». Вядуцца перамовы з зоркамі, прадзюсарамі, кіраўнікамі музеяў, тэатраў. Віцябляне з нецярпеннем будуць чакаць прыезду гасцей з розных краін, каб з раніцы да позняй ночы горад мог спяваць, танцаваць, весяліцца ў цёплыя дні ў сярэдзіне лета. Разам з фэстам тут вырасла цэлае пакаленне маладых гледачоў і слухачоў. Але не толькі яны — і іншыя адданыя прыхільнікі ўпэўненыя, што 25 гадоў для фестывалю — узрост маладосці. Можа быць, таму ў яго не згасае імпэт увесь час здзіўляць.

**Аляксандр ПУКШАНСКІ**



## Гістарычны эксклюзіў

**Срэбны «пояс Вітаўта» і эксклюзіўныя дыпламатычныя падарункі Кіраўніку дзяржавы з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь былі прадстаўлены жыхарам і гасцям горада ў дні «Славянскага базару ў Віцебску».**

**Да 31 ліпеня ў зале экспазіцыі «Скарбы Віцебскай зямлі» будзе дэманстравацца прывазны экспанат «Сярэднявечнае ўпрыгожванне. Таямнічы пояс эпохі Вітаўта Вялікага». Гарнітур з 11 срэбных круглых пласцін, дэкарыраваных раслінным арнаментам, малюнкамі птушак і васіліскаў, а таксама спражкі з наканечнікам і пяць злучальных планак датуецца пачаткам XV стагоддзя. Ён быў знойдзены ў 1990-х гадах у скарбе каля вёскі Літва Мінскай вобласці.**

**Рарытэт занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей (з прысваеннем 1-й катэгорыі). Паводле легенды, пояс Вітаўта — гэта падарунак, зроблены ў Крыму, правіцелю Вітаўту. Значнасць гэтага прадмета не ў каштоўных металах, а ў тым, што ён мог быць паднесены найвялікшай асобе ў нашай гісторыі. Ні ў адным музеі свету няма такога артэфакта, які хоць прыблізна меў бы дачыненне да Вітаўта.**

# КНІГІ НА ЛЕТА

**Для кожнага сезона можна знайсці сугучную па настроі і вельмі дарэчную кнігу. Часам яна трапляе ў рукі сама, а калі не — чаму б не скарыстацца падказкай? Навела Андрэя Адамовіча «Таўсціла і лешч», зборнік Ганны Навасельцавай «І чарам сніцца чалавек...» — выданні для адмысловага чытача. Таму і прадстаўляць іх трэба адмыслова — каб ніхто не забыўся, не пераблытаў і дакладна не абмінуў выданне, якое пасуе менавіта яму. Абедзве кнігі дзіўныя і нават псіхадэлічныя. Каб прачытаць іх цалкам, трэба з першых старонак пагадзіцца з асаблівасцямі аўтарскай паэтыкі і не звяртаць вялікай увагі на празмернасці. Да таго ж, як апавяданні, так і навелы — тэксты, якія дапускаюць розныя прачытанні і вядуць кожнага чытача да сваіх высноў.**

## Лешч, марлін і залатая рыбка




**Для каго:** для тых, хто не баіцца «жорсткай» прозы з непрыгожымі ў эстэтычным плане сітуацыямі, непрыстойнымі слоўцамі, натуралістычнымі падрабязнасцямі. У кнізе гэтага насамрэч няшмат: дакладна столькі, колькі патрэбна, каб праўдзіва распавесці пра беларускую рыбалку. Але калі такія тэксты выклікаюць дыскамфорт, за кнігу можна ўзяцца дзеля выдатна прадуманага сюжэта, які праўду не адпускае да апошняй старонкі, і дзеля сэнсоўнай развязкі — вельмі важнага пункту навелы.

**Дзе, калі і як чытаць.** У беларускай літаратуры няшмат твораў буйнога фармату, якія сучасны чалавек можа «праглынуць» за некалькі гадзін. «Таўсціла і лешч» — яркае выключэнне. Чытач пагаджаецца, што восемдзесят беспасляховых рыбалак на ляшча сведчаць пра нейкую таямніцу, губляецца ў здагадках, чым скончыцца твор і, зрэшты, пра што ён, а пісьменнік непрыкметна прапануе ўсё новыя інтрыгоўныя варыянты развіцця падзей. Даводзіцца губляцца ў здагадках, якая стрэльба стрэліць, а якая вісіць, адно каб пакашытаць нервы чытачу.

Навела Андрэя Адамовіча чытаецца хутка і лёгка, таму дапаможа забыцца на час у вагоне цягніка альбо ў доўгай чарзе. Адпаведна, «Таўсціла і лешч» — незаменная кніга ў дарозе, «кароткі даведнік па фідарнай лоўлі», і ўнікальная (аднак не самая прыемная) магчымасць паназіраць за сапраўднай мужчынскай рыбалкай.

**Пра што.** Лоўля рыбы — з аднаго боку пашыранае хобі, з іншага — старажытны промысел, вядомы людзям усяго свету, якія жывуць на ўзбярэжжы мора, ракі альбо возера. Рыбалцы прысвечана нямала твораў сусветнай класікі, пачынаючы з аповесці Эрнэста Хэмінгуэя «Стары і мора». Аповесць маладога беларускага аўтара пачынаецца сугучна. Мужчына выпраўляецца на раку, каб злавіць вялізнага ляшча. Гэтым разам яму дакладна пашанцуе! Развітваецца з жонкай Марыяй і сынам Янам, захоплівае двух знаёмых... У дыялогах з'яўляюцца падколкі, прымітыўныя жарцікі і адпаведны жаргон:

— Халера з ім. Са мной. Макс, здарылася што, чо ты літар усадзіў? Напраўду што?

— Чуеце, вы раз на год ад спадніцаў адарваліся, дык смелыя сталі, ці так?

— Ну так, ну так, — паківаў галавой Ткач. — Давайце жэрці ці што. А то сядзім неяк, як дзябілы.

Стары Санцьяга ды нават больш блізкі да нас па менталітэце Ігнатыч Утробін з аповесці Віктара Астаф'ева «Цар-рыба» апынаюцца неверагодна ўзнёслымі і лірычнымі побач з беларускімі аматарамі рыбнай лоўлі. Галоўны герой армянін Максім крыху вылучаецца з кампаніі, бо разважае пра Канта і разважае пра спіралі ДНК.

Сны пра рыбу, некалькі хвілін барацьбы, радасць валодання выключнай здабычай... Гісторыя гераічнага змагання і сямейная казка пра ляшча нечакана прыводзяць да фіналу іншага вядомага твора — «Казкі пра рыбака і рыбку». Высвятляецца, што мужчына, які не есць рыбу і нават не трывае яе паху, ездзіць лавіць ляшча, каб дагадзіць дзіўнаватай жонцы, якая ці то мае каханка, ці то хоча звесці мужа ў вар'ятню, ці то імкнецца яго псіхалагічна падпарадкаваць насуперак традыцыі і здароваму сэнсу. Магчымыя і ўсе тры варыянты разам, да таго ж навелу можна чытаць як роздум пра жыццё і смерць ці расповед пра абуджэнне героя. «Герой мусіць зрабіць нешта пад вонкавым ціскам, неяк праявіць характар» — і напрыканцы твора ў Максіма гэта нарэшце атрымліваецца.

**Nota bene.** У расповедзе пра лоўлю ляшча Андрэй Адамовіч паспявае абмаляваць адзін з пазнавальных беларускіх сацыятыпаў, зафіксаваць праблему трансляцыі культурных каштоўнасцей, апісаць жыццё ў новай галактыцы, папярэдзіць пра небяспеку агрэсіўнага стылю кіравання аўтатранспартам... Пісаць ёміста — выдатная здольнасць, і вельмі верагодна, што малады аўтар прапануе яшчэ нямала канцэптуальных, сур'ёзных і, пажадана, менш брутальных (бо больш спажыўных для чытача) твораў.

**Як знайсці.** Набыць кнігу можна ў кнігарні Логвінаў і на сайце *knihi.by.* У інтэрнэце хутка знаходзіцца вялікі фрагмент з навелы, што дазваляе прыняць канчатковае рашэнне: чытаць ці не чытаць. Пагартаць кнігу варта: «Таўсціла і лешч» — цікавы варыянт гісторыі пра чалавека і яго вялікую рыбу і за твор вось-вось сур'ёзна возьмуцца замежныя даследчыкі-кампартывісты...

## Зазірнуць у чарадзейны свет

**Для каго:** для ўсіх, хто з цікавасцю будзе вандраваць у дзівосным свеце, населеным міфалагічнымі істотамі згодна з уяўленнямі нашых продкаў. Героямі твораў таксама становяцца вядомыя асобы беларускай гісторыі, персанажы легенд і паданняў. На старонках кнігі давядзецца быць пільным да намёкаў, шэптаў, загадак, перагукаў, уважлівым да слоў, бо слова і ёсць чарадзейства. Няўважлівы чытач проста не ўтрымае ў памяці сюжэт, аглядаючы чароўны свет і ўслухоўваючыся ў размовы герояў...

**Дзе, калі і як чытаць.** Адпаведна, чытаць апавяданні Ганны Навасельцавай трэба нетаропка, лепш за ўсё разгарнуць іх на прыродзе — у старым вясковым будане, на верандзе з вокнамі, адчыненымі ў сад. На стале побач з кнігай лепш за ўсё мець кубачак, куфаль ці келіх з прыемным напоем. Гадзінка рэлаксу дапаможа забыцца на дробныя праблемы, адчуць сябе больш годным, моцным і здольным. Бо самае значнае ў чарадзейным свеце — вярнасць свайму прызначэнню, каханне, прыгажосць, духоўная сіла і служэнне дабру. Творы маладой пісьменніцы дапамогуць засяродзіцца на ўласных пачуццях, уражаннях, прадчуваннях. Хай сучасны чалавек найбольш дбае пра розум і цела, душа застаецца нашай сутнасцю, і забывацца на гэта не варта.

**Пра што.** Злое раптам робіцца добрым, здраднік ператвараецца ў сябра, расчараванне становіцца радасцю, небяспека падказвае новы шлях... У апавяданнях Ганны Навасельцавай адбываецца шмат аднолькавага, дый яе чарадзейны свет — адзіны на ўсю кнігу абшар з лясамі, палямі, азёрамі, крыніцамі, нешматлікімі паселішчамі. Тут жыве шмат герояў, здараюцца розныя сустрэчы, але мастацкі падыход да выяўлення падзей застаецца нязменным — патрэбны ж у кнізе пэўныя канстанты.




Бусліч-бусел шукае царэўну-гадзюку, якая падгаварыла яго выпусціць з меху няшчасці, хваробы і людскія звады. Вужыная каралеўна сумуе па Вужычу, згадвае князя Рыдана і яго сыноў, зачараваных у рэкі. Камяні-следавікі распавядаюць пра сваё мінулае, узнаўляюць гісторыю людзей, якія хадзілі вакол іх спеўнымі карагодамі, шукалі заклятых скарбаў, уздымалі камяні на вялікія курганы. Ды пакрысе застаецца «меней усё тых, уладарных і годных. Болей усё тых, уладарных і гнеўных». А простыя людзі просяць у каменных волатаў не шчасця, а абутку-адзежы.

Апавяданні з кнігі «І чарам сніцца чалавек...» маглі б разглядацца на занятках беларускай літаратуры як прыклад арыгінальнай аўтарскай распрацоўкі фальклорных вобразаў і сюжэтаў. Але сюжэты ў гэтых творах не галоўнае, большае значэнне мае настраёвасць, паважлівая павольнасць зававлівага расповеду і пералівістае мільгаценне сэнсаў, якія збіраюцца з урыўкаў размоў ды аўтарскіх апісанняў.

**Nota bene.** За чытаннем кнігі раптам з'яўляецца адчуванне, што свет вакол не такі просты, як здаецца. Людзі з цягам часу страцілі здольнасць бачыць чароўнае, а насамрэч ходзяць побач чарадзеі, хаваюць мудрасць разважлівыя валуны, смяюцца вавёркі, і коткі ведаюць пра нас больш, чым мы самі. Згадваюцца расповеды нашых прапрадзедаў, зафіксаваныя этнолагамі і фалькларыстамі, — цалкам дапушчальна, што адмысловыя стварэнні кшталту русалак ды ваўкалакаў, асілкаў ды чарадзеяў напраўду жылі ў свеце. Апавяданні Ганны Навасельцавай — магчымасць уявіць светабачанне даўніх продкаў, згадаць пра духоўную сувязь з імі, адчуць узаемасувязь усяго існага. «Напіўся я халоднай вады і стаў дужым-дужым. Глынуў зорку, і ніхто цяпер не можа мяне перамагчы. Таму што нельга перамагчы крынічную прагу жыцця і зорную вечнасць змагання. У іх — веліч ляснога шолаху і замова палёў... У іх — бясконцае мноства мінулых і будучых жыццяў. Але ў гэта трэба паверыць, на гэта трэба спадзявацца...».

**Аднак.** Паўторы, метаніміі, сінтаксічны паралелізм дапамагаюць стварыць магічнае ўздзеянне, але крытычны чытач, які не трапіў на адну хвалю з маладой аўтаркай, абавязкова зверне ўвагу на зацягнутасць дыялогаў, шматлікія цьмяныя месцы і пераказы. Так, слова — гэта чараўніцтва, але пісьменніца магла б быць больш лаканічнай і рабіць сюжэты больш дынамічнымі, бо шырокая плынь аповеду часам не дазваляе засяродзіцца на дзеі. Адпаведна, з сямнаццаці апавяданняў самымі запамінальнымі аказваюцца карацейшыя творы — да вышэйзгаданых варта дадаць «Зюзіча», «Ягіню», «Рабінавае сонейка». А расхінаецца свет чараў перад дзяўчынкай, якая гушкалася на высокай ліпіне, дзе жывуць Ліпнік і дзівосны кот Вугалёк. Апавяданне-ўспамін з дзяцінства чытаецца лёгка — магчыма, казачныя ды міфалагічна-легендавыя творы таксама маглі быць менш складанымі па стылю, але ў аўтаркі абавязкова маюцца важкія аргументы...

**Як знайсці.** Кніга Ганны Навасельцавай выдадзена невялікім тыражом у Віцебскай абласной друкарні. Верагоднасць знайсці зборнік у продажы мінімальная, але многія апавяданні друкаваліся ў часопісах «Полымя» ды «Маладосць», якія можна адшукаць у электронным архіве выданняў на сайце выдавецкага дома «Звязда».

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Прывід зніклага горада

**Сяргей Жадан раней наведваў Мінск з літаратурнымі выступамі чатыры разы — у 2002, 2008, 2012 і 2014 гадах — як можна заўважыць, інтэрвал паміж візітамі з кожным разам скарачаўся. Летась прыехаў не адзін, а з гуртом «Собаки в космосі», і даў канцэрт, праспяваўшы песні на ўласныя вершы. Сёлета ў іх выйшаў новы альбом, і Жадан зноў прыехаў у Мінск, але не толькі каб прэзентаваць гэты дыск — галоўнай нагодай стала публікацыя перакладу яго апошняга рамана «Варашылаўград» (2010) на беларускую мову. За правы перастварыць раман па-беларуску завочна змагаліся ажно некалькі перакладчыкаў, але давёў справу да канца і выдаў кнігу Віталь Латыш.**



**Даведка «ЛіМа»:**

*Сяргей Жадан — украінскі пісьменнік, паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Старабельску Луганскай вобласці, у 1996 скончыў факультэт украінска-нямецкай філалогіі Харкаўскага педагагічнага ўніверсітэта, пэўны час там выкладаў, атрымаў ступень кандыдата. Дэбютаваў у 1995 годзе зборнікам вершаў «Генерал Юда» і за дваццаць год апублікаваў дзесяць кніг паэзіі, апошняя з якіх з'явілася сёлета ўвесну і мае назву «Життя Марії». У 2004 годзе пабачыў свет зборнік апавяданняў «Біг мак», які пазней вытрымаў шэраг перавыданняў з дадаткамі, у наступныя гады з'явіліся кнігі кароткай прозы «Гімн демократичної молоді» (2006) і «Месопотамія» (2014), раманы «Депеш Мод» (2004), «Anarchy in the UKR» (2005) і «Варашылаўград» (2010). За апошняе дзесяцігоддзе былі выдадзеныя таксама каля дзясятка тамоў выбраных твораў, якія карыстаюцца надзвычайным попытам. Творы С. Жадана перакладзеныя больш чым на дзесяць моў і даволі добра вядомыя за межамі Украіны. Яго публікацыі двойчы былі ўганараваныя прэміяй «Кніга года Бі-бі-сі», а раман «Варашылаўград» быў таксама названы «Кнігай дзесяцігоддзя». Разам з гуртом «Собаки в космосі» С. Жадан як аўтар і выканаўца запісаў музычныя альбомы «Спортивний клуб армії» (2008), «Зброя пролетаріату» (2012), «Бийся за неї» (2014) і «Пси» (2016). Перакладае з нямецкай, польскай, рускай і беларускай моў. Жыве ў Харкаве.*




«Варашылаўград» — раман знакавы. У ім Жадан паказаў горад свайго дзяцінства — Луганск, які да 1990 года насіў імя сталінскага наркама. З моманту з'яўлення рамана прайшло пяць гадоў, за гэты перыяд многія рэаліі змяніліся, але з часам актуальнасць твора толькі ўзрасла. Сяргей Жадан ніколі не скардзіўся на адсутнасць увагі з боку чытацкай аўдыторыі, і «Варашылаўград» знайшоў прызнанне далёка за межамі Украіны адразу ж пасля выхаду, але сённяшняя цікаўнасць да гэтага аўтара і ягонай кнігі стала асабліва пільнай, і віной таму — трагічныя падзеі, што разгортваюцца ў сённяшнім Луганску-Варашылаўградзе. Жадан, які нарадзіўся на Луганшчыне, дзе і сёння жывуць ягоныя бацькі, натуральна, не можа не рэагаваць на тое, што адбываецца, і мае на гэта ці не найбольшае права.

Галоўны герой рамана прыязджае на малую радзіму, каб дапамагчы брату, які трапіў у складаную жыццёвую сітуацыю. Разам з сябрамі дзяцінства яму даводзіцца бараніць ад рэйдарскага захопу занядбаную бензакалонку і закінуты аэрапорт, што аказваюцца іх найдаражэйшымі скарбамі, з якімі так шмат звязана ў мінулым. Мясціны, дзе прайшлі маладыя гады, надаюць сілы і ўпэўненасці ў змаганні за сваё. «Варашылаўград» — бадай, квінтэсэнцыя любові да малой радзімы і радзімы вялікай, якія для Жадана непадзельныя.

Раней у перакладах на беларускую мову з'яўляліся раманы Сяргея Жадана «Дэпеш мод» (2004, пераклад Тацццяны Урублеўскай, 2006,) і «*Anarchy in the UKR*» (2005, пераклад Алега Жлуткі, 2012). З «Варашылаўградам» гэтыя творы яднае падабенства тэматыкі, а таксама агульныя месца і час дзеяння — усход Украіны на пераломе дзевяностых і двухтысячных. Першы раман С. Жадана «Дэпеш мод» распавядае пра жыццё харкаўскіх юнакоў пачатку 1990-х, а «*Anarchy in the UKR*», хоць і заяўлены як раман, насамрэч уяўляе збор розных па структуры і прынцыпе складання нізак апавяданняў, дзе крытэрыямі выступалі як этапы падарожжа па малой радзіме, так і храналогія разнастайных успамінаў, і спіс улюбёных музычных кампазіцый.

Таксама падчас мінскай прэзентацыі «Варашылаўграда» гучалі вершы Жадана, як у ягоным выкананні, так і ў беларускіх перакладах, сабраных у кнізе пад назвай «Украінскія авіялініі», якая выйшла летась у Цярнопалі. Зборнік налічвае каля сотні выбраных твораў у перакладзе Андрэя Хадановіча і дзясятка іншых беларускіх літаратараў. Напрыканцы жніўня мусіць выйсці з друку новы паэтычны зборнік «Тамплієри», вершы з якога таксама былі прачытаныя аўтарам для мінскай публікі.

**Антон РУДАК**

# Невядомае жыццё забытага паэта

**Браніслаў Люгоўскі (1908 — пасля 1941) у даваенны час быў вядомым у Віцебску паэтам. Яго творы друкавалі не толькі мясцовыя, але і рэспубліканскія газеты і часопісы, таксама — калектыўныя зборнікі паэзіі. Аднак наш час выправіў паэта ў забыццё.**

Нават у даведніках Саюза пісьменнікаў ды розных энцыклапедыях яго імя амаль не згадваецца. Адзінае выключэнне — бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», дзе прыведзеная кароткая бібліяграфія некаторых публікацый Браніслава Люгоўскага ды надзвычай кароткія біяграфічныя звесткі пра яго.

Дакументы, якія я знайшоў у Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці, дазваляюць даведацца больш пра гэтую нешараговую асобу.

Ураджэнец Віцебска, Браніслаў рана асірацеў. Яго бацька ў гады Першай сусветнай вайны быў прызваны ў войска, даслужыўся да фельдфебеля. Пасля рэвалюцыі перайшоў у Чырвоную Армію, камандаваў узводам. Памёр ад сыпнога тыфу і быў пахаваны з воінскай пашанай.

Маці будучага паэта дзесяць гадоў працавала ў віцебскага аптэкара Ульрыха, а ў гады савецкай улады стала хатняй гаспадыняй. Памерла ў 1933 годзе.

Браніслаў, стаўшы бязбацькавічам у 11 гадоў, быў выпраўлены маці ў вёску да родзічаў. Там хлопчык пасвіў кароў у заможных сялян, затым вярнуўся ў Віцебск. Дапамагаў маці: сек дровы, разносіў пітную ваду.

У 1924 — 1926 гадах Браніслаў вучыўся ў пятай сямігодцы. Не скончыўшы яе, пачаў працаваць у гарадскім камунальным аддзеле: спачатку — чорнарабочым, затым — маляром, токарам. У 1929-м перайшоў на завод «Чырвоны металіст» (цяпер ААТ «Вістан»), аднак пісаў вершы, друкаваўся. Таму праз тры гады Браніслава Люгоўскага прызначылі ўпаўнаважаным Саюза савецкіх пісьменнікаў па Віцебскай акрузе. У 1935 годзе ён паступіў на гістарычны факультэт Віцебскага педінстытута, які скончыў праз чатыры гады. Перайшоў на працу ў ветэрынарны інстытут, дзе стаў загадваць кабінетам марксізму-ленінізму і адначасова выконваць абавязкі старшага выкладчыка.

Браніслаў Люгоўскі пачаў рэгулярна друкавацца з 18 гадоў. То былі віцебскія перыядычныя выданні: «Віцебская сялянская газета» (1926 — 1928), «Заря Запада» (1928), «Віцебскі пралетарый» (1929 — 1936), «Віцебскі рабочы» (1939 — 1941); рэспубліканскія газеты «Чырвоная змена» (1927), «Літаратура і мастацтва» (1933); віцебскія літаратурныя зборнікі: «Пачатак» (1926), «Світанне» (1927), «Рытмы збудавання» (1930). Таксама — вядомыя «Узвышша» (1931), «Штурм» (1931), «Полымя рэвалюцыі» (1938). У 1933 годзе ў Віцебску выйшаў сумесны зборнік вершаў Браніслава Люгоўскага і Рыгора Жалезняка.

З 1925 года Браніслаў Аляксандравіч быў членам віцебскага філіяла «Маладняка», уваходзіў у аддзяленне Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У перадваенныя гады ўзначальваў віцебскае аддзяленне Саюза савецкіх пісьменнікаў.

Паэзія Браніслава Люгоўскага пераважна лірычная, а музычна-песеннымі інтанацыямі. Яго тэмы — сялянская праца, прыгажосць беларускай прыроды. На пачатку 1930-х гадоў пераняў так званы стыль паэзіі ўдарнікаў.

Найбольш буйны твор Браніслава Люгоўскага — паэма «На рыштаванні», апублікаваная ў зборніку «Рытмы будавання». Творца супрацьпастаўляе новую, «светлую», рэчаіснасць старому, «цёмнаму», жыццю. І ўсё ж у паэме ёсць сапраўды лірычныя моманты, якія падкрэсліваюць талент аўтара.

Пасля Усебеларускага з'езду ў 1937-м віцебскае аддзяленне ССП і яго кіраўнік былі вострa раскрытыкаваныя. Цяпер цяжка сказаць, наколькі крытыка была справядлівай. Люгоўскага абвінавачвалі ў адсутнасці ўвагі да літаратараў-пачаткоўцаў, развале літаратурных гурткоў на вытворчых прадпрыемствах і ўвогуле бяздзейнасці, прыпісалі ініцыятыву самаліквідацыі аддзялення.

Такія абвінавачванні на той час былі вельмі небяспечныя. Тым больш што ў 1937-м ужо быў арыштаваны брат паэта.

Як склаўся надалей лёс Браніслава Люгоўскага, высвятліць не атрымалася. Апошняя згадка пра яго адносіцца да 1941 года. У альбоме, прысвечаным гісторыі цяперашняй Акадэміі ветэрынарнай медыцыны, сцвярджаецца, што паэт загінуў у часы Вялікай Айчыннай вайны. Аднак ніякімі адпаведнымі дакументамі гэтае сцвярджэнне не падмацаванае.

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ**



Рагнед МАЛАХОЎСКІ

## Валуны

***

Слухаю вечаровую прахалоду.
Па сасновай шыпульцы,
стомленыя за дзень,
бягуць мурашы.
Наліты летняй пяшчотай,
у садзе падае яблык.
Дзесьці па суседстве
салодкім успамінам дзяцінства
гучыць матуліна калыханка.

***

Не спяшаюся прачынацца,
каб затрымацца
яшчэ крыху там,
дзе ўваскрасаюць
пахаваныя мары
і спрабуюць
навучыць бессмяротнасці.

***

Знянацкая навальніца
агаліла
гадамі назапашаны бруд
у чалавечых дзеях
і чалавечых душах.
Разгневанаму на людзей Перуну
кідае выклік
адзінокі дуб,
разадраны бліскавіцамі.

***

Асмеліўся ступіць
на чужую тэрыторыю.
Цяпер я — інструмент,
якім Амур
праверыць на трываласць
вашае каханне.

***

Узіраюся ў вочы агню,
і яны глядзяць на агонь
у маіх вачах.
Але рана ці позна
жар пакрываецца попелам…

***

Пясчынка хлусні,
дзеля ўратавання кахання.
І стануць кароткімі,
як сполахі маланак,
перапынкі
паміж пацалункамі.

***

У горне пацалунку
суцяшаецца мой неспакой,
пераплаўляецца
ў пяшчотныя словы.
Я ўдыхаю твой голас.
Усміхніся мне —
і пачнецца паэзія.

***

Бяссонnай ночу
Разглядаю фіранку на акне.
Павук пляце на поўні павуціну.

***

Меланхолія адчаю.
Глытаючы пыл
твайго маўчання,
адштурхоўваю ад берага
човен.

***

У дзікім ягадніку
выпадкова крануў мядзянку.
Яд расцякаўся па крыві,
але ўратаваўся.
Бачыла б яна,
наколькі атручаная нянавісцю
мая душа, —
мо не чапала б,
пашкадавала…

***

У жылах дуба векавога
на кладах
пульсуе Стыкс.
Нялёгкі
з мёртвых шлях
у паднябессе.

***

Звонкае рэха абцасаў
трывожыць ноч.
Хлуслівых пачуццяў іржа
праступіла на твары.
Ты растаптала мой гонар,
нібыта пялёсткі надзей,
якімі быў усланы
няўпэўнены шлях
да крыжа
знявечанага шчасця.

***

Пачуццё рэўнасці
зведаў упершыню,
калі хлапчуком
назіраў за мастаком,
які на пясчаным беразе
раскінуў мальберт
і маляваў сваю Нарач.

***

Смага жыцця,
Смага любові,
Смага еднасці…
З пакінутай на ганку
недапітай конаўкі
спякотны вясновы ранак
прагна глытае кляновік.

***

Лясныя сцяжыны
змяняліся
палявымі дарогамі,
тыя сілкавалі жыццём
асфальтавую шашу.
Толькі балела душа
за валошкі
ў спіцах ровара.

***

Крылы лёсу
разлучылі з найкаштоўным,
аддаляюць
фізічна і духоўна.
Як жа хочацца
заплюшчыць вочы
і вярнуцца
да матулінай калыханкі.

***

Быў час,
калі не ведаў,
што такое смерць
і што такое жыццё.
Не разумеў,
чаму ад кладоў
ідуць самотныя людзі…
А проста захапляўся
палётам папяровага змея,
якога адпусціў на волю.



Іна ФРАЛОВА

## Магутны Божа

Я пакланюся перад абразамі:
— Малю, Магутны,
не міні народ,
Каб хлеб і далей здабывалі
самі,
Каб крумкачоў не бачыць
карагод,
Каб не пайсці па свеце
жабракамі,
Каб доўжыўся ліцвінаў
радавод…
Я пакланюся перад абразамі:
— Магутны Божа,
захавай народ!

## Памяці дзеда

Мой дзед, сівы, старэнькі,
невучоны,
Штодзень праводзіў сонца
за раку.
Ён угледзаўся ў захад залачоны,
Мяне, малую, ўзяўшы за руку.

Пра што ён марыў — сёння
не спытаеш,
Маўчыць узгорак сціплы
над крыжом.
І зноў, і зноў той час
успамінаеш,
Што вастракрылым
праімчаў стрыжом.

## З «Уральскага дзённіка»

Мне доўга будуць сніцца
цягнікі.
Імчаць штоноч яны
праз бальшакі,
Праз хараство
залататканых рэк,
Праз векавы
Уральскі абярэг…
Закружыць галаву,
як дурнап'ян,
У сне таёжны сіні акіян.
І зарапады цёплых,
шчырых слоў
Святлом абудзяць ціхую
любоў.
І сніцца зноў: нясуцца націянькі
Акрыленыя небам цягнікі.

## Заплятаю каханню тугую касу

«Я хачу быць з табой,
хай зайздросцяць усе», —
Ахапіло сказ калючым
двукоссем.
Я хачу раніцою з табой па расе
Расціраць у далонях калоссе.
Марыць разам, што прыйдуць
шчаслівыя сны
Да цябе, да людзей, да Айчыны.
Дачакацца ў халодным
Сусвеце вясны.
І хваліць без усякай прычыны.
Гаварыць неўпапад, абмінаць
мітусню,
Прамаўчаць, што датычыцца
Бога.
І ніколі, ніколі не бачыць
хлусню
У вачах, дзе блакіту
так многа!
Будзем разам збіраць дзіўных
гукаў красу,
Нас да зор паднімаюць арэлі.
Заплятаю каханню
тугую касу,
Як радочкі кладуць менестрэлі.

## Белыя берагі

Ля чыстага броду, ля светлай
вады
Сядзелі, любіліся два галубы.
Сядзелі блізенька — крыло
да крыла,
Глядзелі, як рэчанька ціха
плыла...

Каханне туманам сышло
да пары,
Іх шчасце развеялі ў полі
вятры.
Бо сіняя далеч, як гэта рака,
Паклікала ў неба таго
галубка.

Не бачна за хуткімі хвалямі
дна.
На беразе белым галубка
адна…
Ад рання да рання, з відна
да відна
Сустрэчы чакае з каханым
яна.

***

Узняліся высока жураўлі
І паплылі над ранішняй
зямлёй.
Ці помніш, любы,
так і мы з табой
У далеч неабсяжную плылі?!

Бяздоннымі нябёсы не былі,
Не страшыў распасцёрты
далягляд.
Не дакранаючыся,
праплывалі над
Усімі забаронамі зямлі.

А сёння на блакіт стрэмкіх
нябёс
Падняць вачэй нам
не хапае сіл.
Бо тым, хто зведаў прагу
гонкіх крыл,
Тугой зямною помсціць
жорсткі лёс.



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

## Інфінітыў

***

чакаеш вершаў,
а я не чакаю — ведаю:
неўзабаве падорыш мне
найлепшую ў свеце паэму,
пакуль безыменную —
ведаеце ж, як пароую складана
прыдумаць назоў.

такую непаўторную
паэтычную форму
здатны адолець кожны.
яна пішацца на працягу 280 дзён,
а потым да пэўнай пары
рэдагуецца.

галоўнае —
не выпраўляць яе
да непазнавальнасці.

## мінача

кім ты тут?
хто пазнае цябе ў натоўпе?
мы бачыліся дакладна
але дзе і калі?
нідзе і ніколі
мы з розных галактык
і кожны на сваім месцы
у гэтай прасторы ты госць
як і я ў тваёй
праходзіш ценем
праз мой цень
як святло праз паветра
што сказаць табе
на адвітанне?
будзь здаровы
мінача!

## Рэцэпт

на аркуш з маімі вершамі
пакладзіце шматок
доктарскай каўбасы
пакрышыце сталічнага сыру
заліце пажадана аліўкавым
маянэзам
яшчэ больш пажадана
з вядзерца
не зашкодзіла б нарэзаць
пару таматаў
і — на тры хвілі ў мікрахвалёўку
каб смачна было й за вушамі
хрумсцела…

***

я паветраны змей
што выраваўся з рук гандляра
і лунаў у прасторы
абыякава-нудных істотаў
вонкава падобных да людзей
пакуль не ўчапіўся за тваё
падваконне
але як ні дзіўна пачуваюся
вольным

галоўнае не перацінай нітку
якая нас лучыць
і крый божа не закідвай
на антрэсолі

## інфінітыў

трава не вартая гною
траву не бярэ каса
з яе робяць газоны
абстрыгаюць нажніцамі

у траве не жывуць кузюркі
траву выстаўляюць на продаж
трава не мае выйсця
яна не ў стане рухацца
і хіліцца ад ветру

трава ў інфінітыве



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

*Абразкі*

# Бярозы Роберта Фроста

Люблю перачытваць амерыканскага паэта Роберта Фроста. Кожнага разу мяне здзіўляе яго назіральнасць, філасофская разважлівасць, паяднанасць з прыродай. Нездарма амерыканцы лічаць яго паэтам нумар адзін усяго дваццатага стагоддзя, як Уолта Уітмена — першым паэтам дзевятнаццатага.

Вось верш «Бярозы». Калі паэт бачыць у лесе сагнутыя бярозкі, то шукае таго хлапчука, які гэта зрабіў. А насамрэч вінаватыя тут мароз, дождж і ледзяная скарынка, якая зіхаціць і асыпаецца пад сонцам. У рускім перакладзе гэтая карціна апісана так:

*Под ярким солнцем на звенящий наст*
*Ссыпаются хрустальные скорлупки.*
*Такая груда битого стекла,*
*Что кажется, упал небесный купол!*
*Слабеют с каждым разом их стволы,*
*Чтобы однажды сгорбиться навеки*
*И не поднять склонённой головы.*

Надзвычай яркая, маляўнічая карціна. Нехта можа сказаць, што занадта сумны фінал, мне і самому карціць памагчы бярозцы выпрастацца. Роберт Фрост, паэт-жыццялюб, не мог скончыць верш на такой скрушнай ноце. І ён ускліквае, быццам выдыхае ў марозлівым лесе слупок пары:

*О, нет! Земля прекрасна для любви —*
*И лучше место сыщется едва ли!*
*Как хорошо по белому стволу*
*Карабкаться до самого до неба,*
*Покуда ствол не дрогнет под тобой*
*И вновь тебя на землю не вернёт.*

О, як мне знаёмае гэтае пачуццё гарэзлівай радасці, калі па белым ствале бярозкі караскаешся ўгору, пакуль дрэўца не сагнецца і не верне цябе на зямлю! Трымаеш бярозку за зялёны чуб, а сябрук хуценька абразае ніжнія галінкі на венік для лазні. А венікаў трэба на зіму дзясяткі два, а то і болей, таму што бярозавы венік лекуе ад усіх хвароб. Карацей, нам, падлеткам, даводзілася пашчыраваць. Пра гэта вельмі хораша сказаў наш таленавіты зямляк Алесь Пісьмянкоў у вершы «Ода бярозаваму веніку». Затое цяпер — гэткі шчымліва-радасны ўспамін. І абудзіў яго Роберт Фрост.

Для мяне ён, так бы мовіць, роднасная душа, бо ўсё сваё жыццё, а пражыў ён 89 год, займаўся фермерствам. Дарэчы, памёр у Бостане, дзе я пішу гэтыя радкі. У 60-я гады Роберт Фрост прыязджаў у Маскву, яго прыхільна сустракалі шматлікія чытачы, а ён з гонарам казаў: «На вашым гербе — серп і молат, а на маім — каса і сякера».

Мне прыемна, што магу паўтарыць услед за слынным паэтам: і на маім гербе таксама каса і сякера, ды яшчэ пчаліны курэль.

***

Здавалася, абразок напісаны, перапісаны… Вычытваю, ціха гамоніць рускамоўны тэлеканал. Рубрыка: «Гэты дзень у гісторыі Амерыкі». І раптам чую: 26 марта 1874 года нарадзіўся паэт Роберт Фрост...

Зірнуў на лісток календара «Родны край», які прывёз з Мінска, і вачам не паверыў: на лістку — буйная лічба «26», зверху — «сакавік», унізе — «чацвер». Дзівосы! Хіба не містыка?! Пра дату нараджэння паэта я зусім не думаў.

Што ж, хай спачывае спакойна вялікі талент і вялікі працаўнік Роберт Фрост. Ягоныя бярозы будуць шумець вечна.

# Сумнае «восхищение»

Неяк прачытаў у раённай газеце інтэрв'ю з маладой настаўніцай музыкі ды спеваў. Уразіла прызнанне, як яна стала выкладчыцай, як палюбіла музыку. Аказваецца, яе дзявочае прозвішча — Багдановіч, таму зацікавілася творчасцю Максіма Багдановіча. Вершы яго падаліся дзяўчыне надзвычай меладычнымі, пачала напяваць іх. А калі пачула па радыё «Слуцкія ткачыхі» ў выкананні «Песняроў», дык «восхищению не было предела». Цвёрда вырашыла паступіць у музычнае вучылішча.



Калі прачытаў гэтыя словы, мне зрабілася вельмі сумна. Чаму ж гэтая сімпатычная жанчынка (у газеце — яе каляровы здымак) пад моцным уражаннем ад Максімавых вершаў не палюбіла беларускую паэзію, не адчула сябе беларусачкай?

Мабыць, у Магілёўскім музычным вучылішчы не панаваў дух беларушчыны. Як не было яго і ў Магілёўскім культасветвучылішчы, якое я скончыў у далёкія пяцідзясятыя гады, дзе сваіх навучэнцаў адвучвалі ад усяго роднага. Галоўным быў курс «Партийно-политическая работа в деревне». Былі лекцыі пра культуру «речи», на якіх нас вучылі асаблівасцям маўлення ў Маскве і Ленінградзе, і ні слова пра культуру беларускай мовы, пра беларускі фальклор. Не дзіва, што праграмы канцэртаў я вёў на рускай мове, гэтак жа рабіў і калі пачаў працаваць у Дзяржынскім — так і хочацца напісаць Койданаўскім! — раённым Доме культуры.

Але вернемся да інтэрв'ю з настаўніцай спеваў. Калі б журналістка задавала пытанні па-беларуску, адказ на іх быў бы на роднай мове, бо песні беларускія выкладчыца любіць. Вось як яна гаворыць (каб перапанаць чытача, працытую газетныя радкі): «Воспитание духовно-нравственной личности, воспитание чувства патриотизма следует осуществлять через слушание и исполнение произведений белорусских композиторов. Через обычаи и традиции Беларуси, культурное наследие нашей страны». Хай сабе пагазетнаму каструбавата, але па сутнасці правільна. Дарэчы, некалі гэтая газета была цалкам беларускамоўная…

Тут варта зазначыць: Магілёўскі музычны каледж носіць імя Рымскага-Корсакава, культасветвучылішча — імя Крупскай, Белдзяржуніверсітэт, журфак якога вывеў мяне ў людзі, — імя Леніна. Не дзіва, што журналістка задавала пытанні на рускай мове, а гераіня публікацыі, вялікая прыхільніца Максіма Багдановіча, не сказала: «Хачу, каб інтэрв'ю было на роднай мове».

Шкада, што яна гэтага не зрабіла, хоць мела на тое поўнае права.

# «Нахмарыла»

Ва ўсім свеце кнігі мемуараў карыстаюцца ўвагай і любоўю чытачоў. Аўтары дакументальных твораў не хаваюцца за прыдуманых персанажаў, а пішуць пра тое, што самі бачылі, перажылі. Вядома, яны па-свойму, суб'ектыўна ацэньваюць тую ці іншую падзею. Строгія законы мемуарнага жанру гэта дазваляюць. Вось у чым асаблівая прывабнасць успамінаў.

Нядаўна мне заманулася зняць з паліцы кнігу ўспамінаў Кірыла Мазурава «Незабываемое». Гартаў, сям-там бачыў свае паметы-«птушачкі». Кінулася ў вочы буйная «птушачка» насупраць абзаца, у якім аўтар піша пра цікавасць яго рускіх таварышаў да беларускай мовы, як ён чытаў на памяць Янку Купалу. Аўтар прызнаецца: «Читал дурно, потому что в то время владел белорусским слабо. Но всё равно все удивились образности языка. Когда предложил найти в русском языке синоним белорусского слова «нахмарыла», они никак не могли это сделать. Пришлось целой фразой выразить его смысл».

Не буду гадаць, якія словы гучалі ля партызанскага вогнішча (а гутарка адбывалася менавіта ў лесе). Мяне ўразіла, што малады партызанскі камісар падкінуў таварышам для разгадкі, так бы мовіць, цвёрды арэшак — удалае, самабытнае слоўка з роднай мовы.

Я міжволі ўспомніў сваю маці. Яна ніколі не казала: *хмурнае* неба, *пахмурнае* надвор'е, як любяць гаварыць нашы сіноптыкі… Не, яна казала: *хмарнае* неба, і, вядома ж, часцяком я чуў ад яе: «Нешта неба *кулажыцца*, *нахмарыла*, на дождж збіраецца».

Неба *кулажыцца*… Падобнага выразу я не сустракаў у творах нашых літаратараў, ды сам вельмі рэдка ўжываю яго, як і *нахмарыла*. Слоўка вельмі каларытнае. Не дзіва, што таварышы Мазурава выказалі яго сэнс «целой фразой». Дарэчы, беларускае слоўка «вырай» на рускую мову перакладаецца трыма: «стая перелётных птиц».

Тут падумалася пра эканомнасць нашай мовы. Вось некалькі прыкладаў: *кирпичный завод — цагельня, бумажная фабрика — паперня, летучая мышь — кажан.* Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. І ў гэтым не толькі плюсы, ёсць і мінус: *летучая мышь* — зразумела кожнаму, а вось што такое кажан, ведае не кожны беларус.

Уразіла і шчырае прызнанне Кірыла Трафімавіча, што ў той час «владел белорусским слабо». Значыць, пазней авалодаў лепш?..

Тут мне прыгадаўся гістарычны факт. Пасля смерці «бацькі ўсіх народаў» 12 чэрвеня 1953 г. Прэзідыум ЦК КПСС прыняў пастанову «Пытанні Беларускай ССР», у якой гаварылася, што ў Беларусі недаацэньваюцца нацыянальныя кадры, у сямі райкамах партыі сярод сакратароў няма ніводнага беларуса, работа апарату ЦК КПБ і Саўміна вядзецца на рускай мове. У Маскве вырашылі адклікаць Мікалая Патолічава, рускага па нацыянальнасці, які тры гады займаў пасаду першага сакратара ЦК КПБ, а на яго месца рэкамендаваць беларуса Міхаіла Зімяніна.

Неўзабаве ў Мінску сабраўся пленум ЦК Кампартыі Беларусі. Гэта быў унікальны пленум, на якім і даклад, і выступленні сакратароў абкамаў гучалі па-беларуску. Не было раней такіх нарад таму, што першымі сакратарамі ўвесь час — а памяняліся іх амаль паўтара дзясятка чалавек — выбіраліся не беларусы. Адзіны беларус, Васіль Шарангові ч, працаваў на пасадзе першага ў 1937 годзе крыху больш як чатыры месяцы і быў расстраляны, як і ўсе яго папярэднікі.

Смела, прынцыпова выступіў першы сакратар Мінскага абкама Кірыл Мазураў, крытыкаваў чыноўнікаў, якія грэбуюць роднай мовай, што трэба смялей вылучаць на кіруючыя пасады нацыянальныя кадры. А праз месяц адбыўся ліпеньскі пленум, на ім бэсцілі Берыю, які ўжо быў арыштаваны, выкрывалі яго стаўленіка ў Беларусі Цанаву. І дакладчык, і ўсе выступоўцы гаварылі па-руску... Мазураў сарамліва каяўся. І каяўся Кірыл Трафімавіч недарэмна: пленум рэкамендаваў яго на пасаду старшыні ўрада Беларусі. А потым ён стаў першым віцэ-прэм'ерам СССР. Трэба аддаць яму належнае: зрабіў ён для Беларусі нямала і роднай мовы не цураўся.

***

Пра падзеі 1953 года, пра жыццё пасля таго, як памёр Сталін, пра чэрвеньскі пленум ЦК КПБ, матэрыялы якога былі строга засакрэчаны амаль сорак гадоў, я напісаў раман «Дзікая ружа». Дарэчы, чэрвеньскі пленум ЦК КПБ доўжыўся два дні. Дык вось, на другі дзень патэлефанаваў Мікіта Хрушчоў, паведаміў, што арыштавалі Берыю, ініцыятара пастановы «Пытанні Беларускай ССР», і папрасіў пакінуць Патолічава на сваёй пасадзе, што і было зроблена.

Кніга «Незабываемое» выйшла другім, дапоўненым, выданнем у Мінску ў 1987 годзе накладам 90 тысяч асобнікаў. Каштавала яна два рублі дзесяць капеек. Пра чэрвеньскі, беларускамоўны, пленум аўтар не ўзгадвае, мабыць, таму, што яго матэрыялы яшчэ былі засакрэчаныя. Да скасавання савецкай улады, якой самааддана служыў Мазураў, заставалася чатыры гады. Ці прадчуваў ён гэткі фінал? Мяркую, разумеў: над Крамлём моцна нахмарыла, не зусім быў згодны з гарбачоўскай перабудовай, таму і вытурылі яго на пенсію, дасведчанага, мудрага, цалкам баяздольнага члена Палітбюро.

Вось які роздум выклікала слова *нахмарыла* з кнігі Кірыла Трафімавіча Мазурава, выдатнага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча. І яшчэ падумалася: гэтую кнігу варта параіць для чытання ўнукам.

# Талентам патрэбна падтрымка

**Сярод талентаў паэта, дзіцячага пісьменніка Міхася Пазнякова заўважны, і даволі выразна, яшчэ адзін яго творчы, мастацкі клопат. Міхась Паўлавіч — добра вядомы перакладчык. Пра асабістыя перакладчыцкія зацікаўленні старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і мы вырашылі пагутарыць.**

**— Наколькі актыўныя ў вас стасункі з прадстаўнікамі літаратур народаў Расіі?**

— Падтрымліваю добрыя творчыя сувязі найперш з Саюзам пісьменнікаў Дагестана, Саюзам пісьменнікаў Калмыкіі, Цюменскім рэгіянальным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Расіі...

**— Геаграфія, як кажуць, досыць шырокая...**

— А яшчэ ж і наша арганізацыя, і я асабіста сябруем з Санкт-Пецярбургскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Расіі, Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыяй. Добрыя адносіны склаліся з літаратурна-мастацкімі часопісамі Расіі: «Невским альманахом», «Нашим современником», часопісам для дзяцей «Мурр», які выходзіць у Калінінградзе.

З Цюменскай рэгіянальнай арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Расіі (старшыня — Мікалай Дзянісаў) падрыхтавалі і выдалі ў Мінску і Цюмені зборнік твораў на ваенна-патрыятычную тэматыку. А ў Санкт-Пецярбургу пабачыў свет зборнік вершаў паэтаў Санкт-Пецярбурга і Беларусі — «Неделимое русло», дзе прадстаўлена каля 40 маіх калег з Мінска. Падрыхтаваны таксама і вось-вось павінен выйсці ў горадзе на Няве зборнік прозы ды публіцыстыкі. Зрабілі беларускі выпуск калінінградскага дзіцячага часопіса «Мурр». Вершы беларускіх паэтаў на тэму вайны, патрыятызму сабралі адзінай падборкай у часопісе «Московский вестник».

**— Сапраўды ўражлівы плён, які дазваляе знаёміцца з беларускай літаратурай у Расіі дастаткова шырока... Відаць, арганізаваць усё гэта даволі няпроста?..**

— Мне падаецца, што калі ёсць жаданне, то знайсці паразуменне заўсёды можна. І расійскія аўтары цягнуцца да беларускіх выданняў, беларускіх выдаўцаў.

**— Ведаю, што ў Выдавецкім доме «Звязда», а крыху раней ва ўстанове «Літаратура і мастацтва» (установа ўвайшла ў склад выдавецкага дома «Звязда» ў 2012 годзе) толькі за апошнія 7—8 гадоў выйшлі кнігі расійскіх**



**пісьменнікаў Яўгенія Еўтушэнкі, Валянціна Распуціна, Любові Турбіной, Валерыя Казакова, Алеся Кажадуба, Барыса Косціна, Аляксандра Чэрняка, Вячаслава Ар-Сяргі...**

— А яшчэ ж трэба ўлічыць, што і Казакоў, і Кажадуб, і Турбіна — адначасова і члены Саюза пісьменнікаў Беларусі... Так што многае рэалізоўваецца дзякуючы менавіта руплівасці людзей зацікаўленых, і ў творчым, і ў сацыяльным плане дастаткова актыўных, руплівых...

**— Міхась Паўлавіч, вы і самі перакладаеце з розных моў... Каму, якім літаратурам і якім аўтарам аддаяце перавагу?**

— Пераклаў асобныя творы класікаў народаў Расіі: Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, Расула Гамзатава, Віталія Біянкі, Яўгенія Пермяка, Самуіла Маршака... Уся гэтая праца прынесла велізарнейшую асалоду, хаця, зразумела, і складанасцей хапіла. Ды і адказнасць вялікая — перакладаў тое, тых аўтараў, што ўжо знаёмыя беларускаму чытачу. Часам — не толькі па публікацыях на рускай мове.

**— А калі гаварыць пра сучаснікаў, пра бліжэйшых да нас па часе паэтаў?..**

— З сучасных вядомых паэтаў дакрануўся як перакладчык да творчасці Ігара Грыгор'ева (1923 — 1996) — былога старшыні пскоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі. Дарэчы, знаёмства з яго творчасцю, гісторыяй яго жыцця падштурхнула мяне і да напісання артыкула «Ігар Грыгор'еў і Беларусь», які надрукаваны ў зборніку, выдадзеным у Санкт-Пецярбургу.

Склаліся добрыя сяброўскія і творчыя адносіны з народным паэтам Дагестана, старшынёю Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Дагестан Магамедам Ахмедавым. Пераклаў больш як 300 яго вершаў на беларускую мову. У выніку сабралася асобная кніга «Горная ліра». Папярэдне пераклады друкаваліся ў часопісе «Белая Вежа» і газеце «Літаратура і мастацтва».

**— Нельга не сказаць, што паэзія народаў Дагестана здаўна цікавіць беларускіх перакладчыкаў... У нас — па-беларуску — выходзілі паэтычныя кнігі, вялікія падборкі вершаў такіх творцаў, як Расул Гамзатаў, Фазу Аліева, Гамзат Цадаса, Сулейман Стальскі...**

— І ўсё ж прастора досыць шырокая — трэба працаваць і працаваць! У Дагестане паэзія ствараецца на аварскай, даргінскай, кумыкскай, лезгінскай, нагайскай, цхатабульскай ды іншых мовах. І ў кожнага з народаў ёсць яркія паэтычныя імёны!

Яшчэ я пераклаў на родную мову многія вершы народнага паэта Калмыкіі, старшыні Саюза пісьменнікаў Калмыкіі Эрдні Эльдышава. Яны друкаваліся ў «ЛіМе» і ў часопісе «Белая Вежа».

**— Ведаю, што вашы зацікаўленні ідуць шырэй, чым літаратура Расіі...**

— Так, у свой час пераклаў на беларускую мову раман М. Сервантэса «Дон Кіхот», раман В. Скота «Квенцін Дорвард», «Пярсцёнак Лёвеншэльдаў» С. Лагерлёф, шмат якія казкі Г. Х. Андэрсена, Братоў Грым. Асалоду мне прынесла праца над пераўвасабленнем па-беларуску вершаў Румі і Шыразі. Займаўся і афганскімі, і кітайскімі казкамі.

У многім такая шырыня, такі дыяпазон абумоўлены досведам выдавецкай работы ў 1970 — 1980-я гады, калі па-беларуску і ў «Юнацтве», якога цяпер ужо няма, і ў «Мастацкай літаратуры» шмат выдавалася перакладной літаратуры, выходзілі калектыўныя зборнікі. Адзін толькі праект «Дзіцячая літаратура народаў СССР» у 15 тамах чаговарты! І ў асаблівасці ў полі зроку выдаўцоў, а значыць і пісьменнікаў, перакладчыкаў якраз і была літаратура народаў братніх рэспублік Савецкага Саюза.

**— Шмат хто з пісьменнікаў толькі мастацкім перакладам і займаўся...**

— Так. Гэта Мікола Татур, Сяргей Міхальчук... Відаць, болей перакладаў, чым пісаў арыгінальныя творы, і Уладзімір Шахавец. Ды і добра вядомыя нашы паэты шмат перакладалі. Невыпадкова ж асобна павыходзілі аўтарскія перакладчыцкія анталогіі і ў Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Васіля Зуёнка...

**— Але ж для развіцця беларускай літаратуры, дзеля таго, каб яе ведалі ў свеце, шмат значыць менавіта пераклад з беларускай на рускую...**

— І на гэтай дзялянцы адзначыўся. Пераклаў на рускую раманы, аповесці, апавяданні, эсэ, вершы многіх вядомых беларускіх празаікаў, паэтаў: Івана Пташнікава, Янкі Сіпакова, Уладзіміра Гніламёдава, Васіля Ткачова, Алеся Масарэнкі, Івана Стадольніка, Віктара Дайліды, Казіміра Камейшы, Паўла Саковіча... І пералік, мяркую, яшчэ можна доўжыць.

**— Што, на ваш погляд, трэба зрабіць для больш актыўнага прасоўвання беларускай літаратуры ў Расіі ў цэлым, у розных рэгіёнах паасобку?**

— Патрэбна сур'ёзная дзяржаўная падтрымка ў справе падрыхтоўкі, выдання такой літаратуры і набыцця яе бібліятэкамі. Не менш важную ролю іграе і пытанне выбару найбольш таленавітых твораў.

**— Ці магчыма сёння адраджэнне такіх альманахаў перакладаў, як «Далягляды», «Братэрства», «Ветразь»?..**

— Наўрад ці можна аднавіць выданне трох альманахаў адразу. Гэта малаверагодна па сённяшнім часе. І не толькі з пункту матэрыяльнага, фінансавага... А вось адно выданне — напрыклад, «Далягляды», — было б сёння якраз да месца. Чаму б аднаму з нашых выдавецтваў не ўзяцца за гэта?.. Мо, напрыклад, «Мастацкай літаратуры», дзе ён і выходзіў раней.

**— Ці знайшліся б у Беларусі сілы, каб адрадзіць, напрыклад, часопіс «Всемирная литература»?**

— Лічу, што суверэннай Беларусі вельмі патрэбны такі часопіс, які знаёміў бы літаратурную грамадскасць з лепшымі ўзорамі твораў сучасных замежных пісьменнікаў. Гэта дзяржаўнай важкасці задача. І вырашаць яе неабходна як мага хутчэй. Добра было б на нейкім этапе даручыць «шэфства» над такім часопісам Міністэрству замежных спраў і Нацыянальнаму ці якому іншаму банку Беларусі. У Турцыі, напрыклад, сацыяльна значную мастацкую літаратуру выдаюць банкі(!).

* * *

На гэтай ноце, на гэтых спадзяваннях мы і завершылі размову з Міхасём Паўлавічам Пазняковым. І яшчэ раз усё ж хочацца паўтарыцца, што любая справа, а наладжванне стасункаў з іншымі літаратурамі — найперш, залежыць ад руплівасці, творчага стаўлення да справы з боку людзей, пісьменнікаў актыўных, руплівых, ініцыятыўных, нераўнадушных.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# Сам-насам з даждж ом і вечнасцю

Гэта той выпадак, калі з меркаваннем літаратуразнаўцы, а да ўсяго і выдатнага празаіка Уладзіміра Гніламёдава, пагаджаешся цалкам: «Мяне кранула гэтая шчырая лірыка, спалучэнне гука з душой, праўдзівая выява жыццёвага, экзістэнцыйнага досведу нашай сучасніцы, паэткі Таццяны Лапцёнак». Сказана коратка, але разам з тым вычарпальна. Кніга ж гэтая, рэдактарам якой і з'яўляецца Уладзімір Васільевіч, названая звышпроста — «Вершы».

У ёй прадстаўленыя як творы апошняга часу, беларускамоўныя, так і рускамоўныя тэксты. У рэшце рэшт, выбар мовы тут не такі і істотны. Тым больш што часткі зборніка — «За філіжанкай дажджу…» і «Нежность» — узаемадапаўняюць адно адное. Хоць, безумоўна, прыемна, што Таццяна Лапцёнак узялася выказаць тое, што блізкае яе душы, па-беларуску. Гэта, несумненна, сведчанне вяртання да вытокаў. Праяўленне і выяўленне той повязі, што паядноўвае лірычную гераіню як з зямнымі рэаліямі, так і з самой вечнасцю.

*Імпануе, напрыклад, гэты верш:*
*Ці ведаеш ты,*
*што ў небе над намі*
*віруе маўклівая зорная намець*
*і вохкае шкло нябёснага спроду*
*люструе позірк Гасподні,*
*нябачны нікому з жывых…*
*вяртае разгублены слых*
*ужо не Слова — Уздых,*
*разліты ў начы зямной:*
*мы праз нябёсаў вакно*
*ці тыя*
*(ты й я)?*

Адсюль і жаданне лірычнай гераіні памкнуцца туды, дзе шмат невядомага і нязведанага. Дзе таямніцы з таямніц, а пазнанне іх — такое спакуслівае, але шмат у чым недасяжнае. Аднак гэтая недасяжнасць выклікае яшчэ большае жаданне разабрацца ў, здавалася б, невытлумачальным. Паэзія заўжды шукае сутнасці. Асабліва калі за ёй стаіць аўтар, які глядзіць на рэчаіснасць вачыма, поўнымі захаплення і здзіўлення адначасова. Ужо не так і проста сказаць, дзе рэальнасць, а дзе мроі, але гэтая няпэўнасць якраз і прываблівае, запрашае да роздуму. Таму і становіцца такім блізкім і зразумелым прызнанне лірычнай гераіні:

*прайду праз ноч,*
*як праз вогнішча,*
*і сляды маіх ног —*
*журавінамі на воблаках,*
*што паплылі за сонцам*
*у далі бясконцыя…*

Зразумелае і гэтае жаданне. Для такой гераіні ніколі няма немагчымага:

*…разбіцца б мільёнамі градзін*
*і асыпацца на вінаградніку,*
*каб потым*
*гарачай ноччу*
*людзі рабілі віно*
*ступнямі стомленых ног…*

У адным з твораў Т. Лапцёнак напаткоўваеш такое сведчанне: «паэзія — не ў вершах, / падзеленых на фразы…». Падобнае сцвярджэнне не магло не з'явіцца, бо за ім паўстае сутнасць таго, як і што піша Таццяна Лапцёнак. Сапраўды, яе вершы знаходзяцца па-за межамі звыклага, традыцыйнага, усталяванага. Аднак іх змест не заўсёды патрапляе і пад звычайны творчы пошук, паэтычны эксперымент. Бадай, па той прычыне, што Таццяна Лапцёнак вельмі непадобная да паэтаў-традыцыяналістаў. У той жа час яна вылучаецца і сярод тых аўтараў, якія з'яўляюцца прыхільнікамі новых паэтычных плыняў. А ўсё таму, што заўсёды і ва ўсім застаецца сабой. Тым, як кажуць, і цікавая.




Я абышоў увагай рускамоўныя вершы не таму, што яны слабейшыя за беларускамоўныя. У іх Т. Лапцёнак таксама трымае планку мастацкасці высока. Але менавіта творы з першага раздзела «За філіжанкай дажджу…», на мой погляд, найлепшым чынам характарызуюць яе як цікавага, арыгінальнага паэта.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Народная школа Цёткі

**Гэты год урадлівы на знакавыя падзеі ў айчыннай культуры. Сярод іх юбілей нашай выдатнай зямлячкі Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Яе яскравы талент праявіўся і ў паэзіі, і ў прозе, і ў публіцыстыцы, а яшчэ яна была выдатным педагогам, асветніцай.**

Сёння з поўным правам можна гаварыць пра актуалізацыю педагагічнай спадчыны Цёткі, бо гэты кірунак яе дзейнасці доўгі час заставаўся без належнай увагі. Больш за тое, замоўчваўся або нават ставіўся ёй у віну. Так, М. Клімковіч у 1952 годзе пісаў, што Цёткай страчаны патрэбныя пазіцыі, а «распрацоўваюцца пераважна “агульначалавечыя” праблемы». Узятае ў двукоссе слова *агульначалавечыя* стала на доўгі час своеасаблівым забараняльным знакам на дарозе да метадалагічнага вывучэння асветніцкіх прынцыпаў Цёткі, пісьменніцы і педагога.

У літаратуру Цётка прыйшла менавіта з народнай школы, таму ўсе праблемы гэтай сферы былі ёй блізкімі, як і мара беларускага селяніна пра паўнавартаснае навучанне сваіх дзяцей (бо гэта быў рэальны шлях да лепшага жыцця). У сваіх успамінах Ю. Вітан-Дубейкаўская вылучае гэта як прычыну прыходу Алаізы Пашкевіч у прыватнае семінарскае вучылішча В. М. Прозаравай, якое рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. З вялікай пашанай Дубейкаўская згадвае, з якой «нязломнай энергіяй Алаіза Пашкавічанка прабіла сабе дарогу»: вучылася і адначасова зарабляла прыватнымі ўрокамі. У 1901-м — пачатку

> *Дбаючы пра выхаванне нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, Цётка пазбягала напышлівых, безаблічна агульных заклікаў. Беспамылковым педагагічным чуццём абірала другі падыход, імкнулася ўзрасціць патрыятызм, які пачынаецца з дбання пра кожную кветку, пра кожнае дрэўца, пачынаецца з «маёй» хаты, рачулкі, мястэчка, перарастаючы ў патрыятызм маёй Бацькаўшчыны.*

1902 года Цётка настаўнічала. Яна вучыла дзяцей у беларускай (на той час нелегальнай) пачатковай школе і на практыцы перакаканалася, якая вострая неабходнасць у вучэбнай літаратуры, напісанай на роднай мове. Самаадукацыя, слуханне лекцый у Пецярбургскім універсітэце, філасофскі факультэт у Львове, затым гуманітарны ў Кракаўскім універсітэце істотна пашыраюць яе веды. І ўсюды яна бесперапынку дбае пра адукацыю, пераймае досвед. Напрыклад, у Львове Цётка перакладае з украінскай мовы і ў 1906 годзе выдае ў друкарні Базыльянскага манастыра ўніятаў кніжачку (7 апавяданняў, некалькі загадак і прыказак) «Гасцінец для малых дзяцей». У тым жа годзе ў Пецярбургу яна выдае арыгінальны падручнік для пачатковай школы «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Але спачатку была каласальная праца па выданні «Лемантара», аўтарам якога доўгі час лічылі Каруся Каганца. Безумоўна, ён меў дачыненне да гэтай працы, але пераважна як мастак-афарміцель (у «Беларускім лемантары» 19 малюнкаў). Гэта даказала ў сваіх даследаваннях М. Яфімава, адшукаўшы сведчанне Якуба Коласа пра аўтарства Цёткі. Пачынаць пісьменніцы-асветніцы даводзілася фактычна з нуля. У канцы XIX стагоддзя пераважная большасць беларусаў былі непісьменныя. На васьмімільённае насельніцтва Беларусі ў 1905 годзе налічвалася толькі 25 сярэдніх навучальных устаноў. Беларуская мова нідзе не вывучалася, і валодала ёю толькі дзевяць працэнтаў настаўнікаў.

Уздым педагагічна-асветніцкай дзейнасці Цёткі прыпадае на 1914 год, калі яна бярэцца за выданне часопіса для беларускай моладзі «Лучынка», дзе змяшчае шмат цікавых і разнастайных матэрыялаў для юнага чытача. Нават у самых складаных умовах, калі Вільня была акупіравана немцамі, Цётка не перастае дбаць пра нацыянальную асвету. Вядомая праграма па справе беларускіх школ, з якой яна звярталася да нямецкіх акупацыйных улад (гэты факт пазней то ставіўся ёй у віну, то папросту замоўчваўся). У лістападзе 1915 года была адкрытая першая пачатковая беларуская школа ў Вільні. Настаўнікаў не ставала, і Цётка наладзіла распрацоўку праграм для трохмесячных настаўніцкіх курсаў, спадзеючыся, што, падрыхтаваўшы першы выпуск, можна будзе адкрываць беларускія школы па ўсіх прадмесцях, дзе жыло больш беларусаў. На жаль, здзяйсненне гэтай задумы ёй не суджана было дачакацца. А, як адзначыла Зоська Верас, сустракаючыся ў год свайго 95-годдзя з настаўнікамі са Слоніма, больш «апантанай натуры», хто абазнана і самаахвярна падхапіў бы такую справу, на той час не было.

Без самаахвярнай працы сапраўды нельга было абысціся. Яшчэ распачаўшы працу над стварэннем навучальнай літаратуры на роднай мове, асветніца сутыкнулася з вялікімі цяжкасцямі. На працягу стагоддзяў беларуская мова пераважна развівалася як сродак вусных зносін. Трэба было неадкладна выпрацоўваць фанетычныя, графічныя і марфалагічныя нормы, неабходныя для навучання. Цётка зрабіла ў гэтым кірунку шмат. Выкарыстала лепшыя літаратурныя творы, а таксама шматлікія фальклорныя, этнаграфічныя і лінгвістычныя даследаванні



Помнік Цётцы ў Шчучыне. Аўтар — скульптар Алесь Ліпень.

вядомых вучоных: Я. Карскага, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага і іншых. Фактычна быў зроблены значны крок па шляху стварэння навучальнай мовы. Сведчанне таму — ліст Цёткі ад 28 чэрвеня 1906 г. да Эпімаха-Шыпілы, дзе яна пісала: «што чутно з букваром, ці ўжо гатоў… і ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як і чаго трымацца». Мелася на ўвазе «Першае чытанне для дзетак беларусаў», задуманае як хрэстаматыя, а яе неабходна было вытрымаць у адным моўным рэжыме, што з'яўляецца першасным метадычным патрабаваннем да



кніг вучэбнага характару. Гэта быў жыццёва неабходны падмурак для дзейнасці нацыянальнай школы.

Яшчэ адна грань педагагічнай спадчыны Цёткі знайшла ўвасабленне ў яе публіцыстыцы, у артыкулах «Да вясковай моладзі беларускай», «Шануйце роднае слова», «Аб душы маладзёжы», «Да дзяўчатак», «Да школьнай моладзі». Шматстайныя па палітры закранутых тэм і праблем, артыкулы аб'яднаны эмацыянальнасцю прамаўлення, падзвіжніцкім педагагічным зместам пастаўленай мэты.

Дбаючы пра выхаванне нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, Цётка пазбягала напышлівых, безаблічна агульных заклікаў. Беспамылковым педагагічным чуццём абірала другі падыход, імкнулася ўзрасціць патрыятызм, які пачынаецца з дбання пра кожную кветку, пра кожнае дрэўца, пачынаецца з «маёй» хаты, рачулкі, мястэчка, перарастаючы ў патрыятызм маёй Бацькаўшчыны. Пісьменніца была перакананая: калі ў чалавека няма любові і пашаны да малой радзімы, да ўсяго, што яе складае, то ў яго не будзе гэтай любові і пашаны і да Радзімы вялікай. «Развівайце ў сабе любоў да чалавека, — мудра прамаўляе асветніца, — і для вас заўсёды будзе дораг родны край і народ…»

Гэта думка складае ідэйнае ядро яшчэ адной грані мастацка-педагагічнай спадчыны Цёткі — яе навуковай белетрыстыкі для дзяцей. І ў гэтай галіне яна была пачынальніцай. Сучасная дзіцячая навукова-папулярная літаратура бярэ выток з каларытных твораў пісьменніцы. Гэта і рэалістычна-казачныя апавяданні «Пчолы», «Гутарка аб птушках», і артыкулы «Пералётныя птушкі», «Папараць-кветка». Названыя творы дакладна разлічаны на дзіцячае ўспрыманне. Тонкае валоданне аўтаркай дакладным і разам з тым вобразным, эмацыянальным словам надае гэтым творам паэтычнасць і стылёвую лёгкасць. Арганічна ўплятаюцца ў мастацкае палатно і выхаваўчыя, павучальныя радкі. «Хто не знае пчолак?» — пачынае свой аповед Цётка і, адразу захапіўшы пытаннем увагу чытачоў, разгортвае дзівосны свет пчалінага жыцця. «Гультаяваты чалавек каб прыглядзеўся да пчалінае работы, то пэўне засароміўся б па вушы», — зазначае пісьменніца як бы між іншым. Але сказаныя з гумарам, без навязлівага маралізатарства словы адразу западаюць у свядомасць дзяцей.

Творы, якія адбірала Цётка для навучальных выданняў ці пісала сама, выхоўвалі ў маленькіх беларусаў любоў да прыроды, да роднага краю, да людзей, фарміравалі гуманістычныя погляды і эстэтычныя пачуцці, развівалі ўяўленне як неад'емную рысу кожнай духоўна багатай асобы. На думку пісьменніцы-асветніцы, развівальны і выхавальны патэнцыял школьных чытанак крыецца ў звароце да фальклору. Азнаямленне з народнымі прыказкамі, прымаўкамі прыносіць маленькім чытачам усведамленне мудрасці, трапнасці і вобразнасці, узбагачае веды, развівае мысленне і мову, прывівае духоўнасць. У 8-м і 9-м раздзелах «Першага чытання для дзетак беларусаў» пададзены прыказкі і прымаўкі, якія Цётка занатоўвала яшчэ на Шчучыншчыне, сваёй малой радзіме. Пісьменніца Валянціна Коўтун, збіраючы ў Вільні матэрыялы для сваёй кнігі пра Алаізу Пашкевіч «Крыж міласэрнасці», даведалася, што тая мела намер падрыхтаваць невялікі дапаможнік для настаўнікаў, дзе былі б тэксты і метадычныя парады для іх, кшталту змешчаных у прадмове да лемантара «Пачытайце» (парады, як трэба вучыць чытаць). Асноўнае месца там павінны былі заняць фальклорныя творы, бо, на думку Цёткі, менавіта беларускі фальклор заключае ў сабе велізарныя выхаваўчыя і навучальныя магчымасці, бо ў ім захаваліся самыя глыбінныя пласты нацыянальнай

> *Без самаахвярнай працы сапраўды нельга было абысціся. Яшчэ распачаўшы працу над стварэннем навучальнай літаратуры на роднай мове, асветніца сутыкнулася з вялікімі цяжкасцямі. На працягу стагоддзяў беларуская мова пераважна развівалася як сродак вусных зносін. Трэба было неадкладна выпрацоўваць фанетычныя, графічныя і марфалагічныя нормы, неабходныя для навучання. Цётка зрабіла ў гэтым кірунку шмат.*

гісторыі, бачныя карані беларускай культуры, выяўляецца светаўспрыманне і светаразуменне народа.

На жаль, архіў пісьменніцы, дзе, відаць, і захоўваліся матэрыялы да планавання выдання, быў вывезены за мяжу яе мужам С. Кайрысам, і нам застаецца толькі меркаваць пра тое, колькі цікавых асветніцкіх ідэй і нерэалізаваных задум ён мог утрымліваць.

Алена РУЦКАЯ

# «Майстроўства» на стагоддзі

## Нацыянальнае ў мастацтве Міхаіла Філіповіча

Пра гэтага мастака варта ўзгадаць не толькі ў сувязі з яго 120-годдзем, якое адзначаецца сёлета. Міхаіл Філіповіч здолеў паказаць сваю прыналежнасць да роднай зямлі, калі ў пашане быў інтэрнацыяналізм.

«…Гэта наогул амаль адзіны мастак на выстаўцы, у працах якога зусім няма не беларускіх матываў, творчасць якога наскрозь прасякнута ўважлівай цікавасцю і шчырым каханнем да роднае краіны. Гэта — адно з найбольш цікавых і каштоўных з'яўшчаў у нашым сучасным нацыянальным мастацтве, што дазваляе спадзявацца на пышны яго далейшы росквіт», — так пісаў М. Шчакацікін пра творы Філіповіча на І Усебеларускай выстаўцы (1925 г.) («Полымя», 1927, № 2).

Міхаіл Мацвеевіч Філіповіч нарадзіўся 25 мая 1896 года ў Мінску. Пачынаў вучыцца ў царкоўнапрыходскай школе ў Мінску, потым скончыў рэальнае вучылішча. У 1918 паступіў у Маскоўскі межавы інстытут, дзе займаўся ў жывапіснай студыі А. Хатулёва, а з 1919 года — у Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях, нават служыў у Чырвонай гвардыі. Але ўжо ў канцы 1920 года быў накіраваны ў Вышэйшыя дзяржаўныя тэхнічныя майстэрні ў клас мастака К. Каровіна. Дэбютная экспазіцыя яго твораў адбылася ў 1921 годзе ў Мінску. Потым — удзел у персанальнай выстаўцы, якая зарэкамендавала мастака як нацыянальна зацікаўленага творцу. На выстаўцы прысутнічаў Янка Купала. Паэт Змітрок Бядуля напісаў спецыяльны артыкул. Творчасць Філіповіча была блізкай Бядулі як па пытаннях пашырэння тэматычнага дыяпазону, так і па імкненні да эпічнасці і рамантычна-эмацыянальным успрыманні жыцця, паэтызацыі беларускай вёскі («Савецкая Беларусь», 1922, № 187). А. Касцялянскі адзначаў моцныя бакі творчай манеры Філіповіча ў сэнсе «майстроўства». На наш погляд, сапраўды: упершыню ў беларускім жывапісе твор «На Купалле» адлюстроўвае патаемнае архаічнае народнае свята, або рытуал, які мае дагістарычны пачатак. Першаснасць, натуральную сувязь з сімваламі прыроды і перадае жывапісец у рухах танцораў, полымі вогнішча свабодным жывапісным стылем, у якім адчуваецца ўплыў экспрэсіянізму.


Міхаіл Філіповіч «На Купалле».

Актыўная дзейнасць у мастацкім жыцці краіны была заўважана: у 1923 — 25 гадах Філіповіча рэкамендуюць для працы ў Беларускім дзяржаўным музеі. У яго творчым лёсе блізіліся часы ўсесаюзнага і нават міжнароднага прызнання. У 1925 годзе мастак стаў членам выставачнай камісіі Міжнароднай выстаўкі дэкаратыўнага мастацтва ў Парыжы для стварэння «Беларускага кутка» ў гэтай міжнароднай экспазіцыі. Членамі камісіі былі прапанаваны толькі графічныя творы М. Філіповіча, а для большага эфекту экспазіцыю ўпрыгожвалі альбомы ізразцоў, набоек, тканыя паясы, посцілкі, ручнікі, ільняныя тканіны, андаракі, кнігі, фотаздымкі мастацкай разьбы па дрэве, архітэктурных помнікаў, тыпаў беларусаў. Часопіс «Полымя» (1925, № 5, с. 206) адзначыў, што «сабрана больш за 300 работ, адправленых у Маскву, адтуль у Парыж».

1927 год стаў плённым для даследчыкаў беларускага мастацтва: пасля выстаўкі «Слуцкія паясы» быў выдадзены каталог з прозвішчамі арганізатараў, дзе першым стаіць прозвішча М. Філіповіча.


Міхаіл Філіповіч.

У 30-я гады мастак актыўна ўдзельнічае ў выстаўках у Мінску і Маскве.

Даследчыкі творчасці М. Філіповіча адзначаюць наступныя факты з яго дзейнасці ў Мінску: у 1922 — 1923 гадах быў мастацкім інструктарам аддзела выяўленчага мастацтва Галоўпалітасветы. У 1923 г. — кіраўнік афармлення беларускага павільёна на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. І яшчэ адзін цікавы факт: у 1930 годзе быў камандзіраваны выдавецтвам «Ізагіз» ва Узбекістан. Да нацыянальнай тэматыкі дадаецца сацыялістычная. Творы на тэму Узбекістана былі набыты Траццякоўскай галерэяй.

У творчых альбомах вылучаюцца тэматычныя серыі: ілюстрацыі да беларускіх народных казак; альбомы замалёвак твораў народнага мастацтва; ілюстрацыі да літаратурных твораў Я. Купалы, М. Гогаля, З. Бядулі; падзеі беларускай гісторыі; партрэтны жанр; вобразы гарадоў; творы сацыялістычнай тэматыкі; ваенная тэматыка, звязаная са службай у арміі (1942 — 1944) і карыкатуры да сатырычных выданняў «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну», плакаты. Таксама выканаў дэкарацыі да оперы А. Туранкова «Кветка шчасця» (1939).

Менавіта цяпер, калі канчаткова пракладзены даследчыя шляхі беларускага мастацтвазнаўства ў незабыўныя 1920-я гады, важна падсумаваць іх плён, ідэйную скіраванасць, багацце творчых ідэй наватарства першых творчых дасягненняў, асэнсаваць дзеля ўстанаўлення сувязяў традыцый і наватарства.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**

# Эпоха праз рэчы

**Патрапіць у музейную залу і нечакана ўбачыць рэчы, вядомыя амаль кожнаму савецкаму чалавеку, якія былі сімваламі тэхналагічнага прагрэсу і якія сталі сапраўднымі сімваламі эпохі. Сёння такую магчымасць прадстаўляе філіял Нацыянальнага гістарычнага музея «Дом-музей І з'езду РСДРП», дзе амаль да сярэдзіны жніўня будзе дэманстравацца выстаўка «1950 — 1960: адценні чырвонага».**



Экспазіцыя — нібы крок у мінулае. Ідзеш па зале: а тут і старыя тэлевізары (корпус некаторых яшчэ нават аздоблены дрэвам), шмат вінілавых пласцінак, фотаапараты і нават кіназдымачныя апараты. Наведвальнікі, якія памятаюць савецкі час, звернуць увагу на кардынальную змену нашага мыслення і ладу жыцця, а вось тыя, хто не паспеў адчуць атмасферу да 1991 года, будуць здзіўлены, бо ўсе выставачныя рэчы далёкія ад сённяшніх бытавых, матэрыяльных кампанентаў.

Аднак экспанаванне выстаўкі абсалютна канцэптуальнае. 1950 — 1960 гады часта характарызуюць як унікальнае дзесяцігоддзе. Менавіта ў гэты перыяд у савецкіх людзей прачнулася масавая цікавасць да такой з'явы, як мода. У экспазіцыі прадстаўлена некалькі варыянтаў жаночага адзення, што магло вылучыць з натоўпу. А паколькі такія рэчы знайсці было практычна немагчыма, дастаткова часта жанчыны шылі самі. Адна з найстарэйшых швейных машынак — «Орша». Яна прадстаўлена на выстаўцы. Дарэчы, менавіта ў гэты перыяд па савецкай прасторы актыўна распаўсюджвалася субкультура стыляг, якая стала стыхійным пратэстам супраць прынятых у савецкім грамадстве стэрэатыпаў паводзін, а таксама супраць аднастайнасці ў адзенні, музыцы і стылі жыцця. Нягледзячы на тое, што ў аснове экспазіцыі — больш традыцыйныя варыянты вопраткі, пра стыляг тут нагадваюць музычныя пласцінкі.

У той час на экраны выходзіць шмат культавых фільмаў. На выстаўцы дэманструецца тэхніка, якой калісьці здымалі кіно — сёння гэта рарытэт.

Асобным блокам — гадзіннікі як пакаёвыя, так і наручныя. Нават і не ўзнікае адчування, што яны не сучасныя. Ніхто б не адмовіўся атрымаць у падарунак такі вытанчаны, стыльны гадзіннік залатога колеру, аздоблены рознымі камянямі, які, безумоўна, можа стаць яскасным дапаўненнем да дзелавога вобраза сучаснай жанчыны. А пакаёвыя гадзіннікі цяпер можна выкарыстоўваць як упрыгожванне класічнага інтэр'ера. Тут міжволі ўзнікаюць думкі: ці то мода час ад часу сапраўды вяртаецца, ці то яскасныя рэчы ніколі не страчваюць актуальнасці.

Выстаўка дае магчымасць зразумець, чым жылі людзі: шмат чыталі, збіралі паштоўкі і розныя часопісы — ад навуковых да выданняў моды, — ліставаліся. Плакатнае мастацтва, якое трывала ўкаранілася ў савецкую



прастору пасляваенных часоў, было стымулам для працы, своеасаблівым заклікам — быць сумленным, адданым. Серыя плакатаў і мноства паштовак нагадваюць пра розныя святы савецкай эпохі.

Ёсць нагода для параўнання з сучаснасцю: разам з рарытэтнай калекцыяй у выставачнай зале прадстаўлены праект аршанскага мастака-графіка Паўла Сідаровіча «Свята працы», які ў мастацкай форме распавядае аб працоўных буднях ужо сучаснага грамадства. Мастак падыходзіць да тэмы з двух бакоў: адлюстроўвае працу як людзей, якія займаюцца цяжкай фізічнай працай, так і офісных работнікаў.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

# Толькі лайкі і ніякіх сабак

## Знаёмыя і новыя героі ў мюзікле для ўсёй сям'і

Тэатр Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла» вядомы смелымі пастаноўкамі старых гісторый на новы лад. У мінулым сезоне гледачы сустракалі асучаснены мюзікл-містыфікацыю «12 крэслаў», дзеянне якога было перанесена аўтарамі лібрэта Маркам Захаравым і Юліем Кімам у нашы дні. І вось на сцэне тэатра адбылася прэм'ера мюзікла ў жанры «антыгламур» «Блакітны шчанюк».

Гэты спектакль — з'ява ў нейкім сэнсе ўнікальная, нават эксклюзіўная. Спецыяльна для «Тэрыторыі мюзікла» Гладкоў напісаў новыя мелодыі, а паэт Юрый Энцін — вершы. Так, усім вядомая казка набыла новых герояў — Мядзведзя, Каня ў паліто, Панду, Кенгуру і экзатычнага сабачку чыхуахуа. Усе яны сталі жыхарамі заапарка, які ад нуды збірае цар звяроў: не хапае львінай душы экзотыкі! Вось толькі ягоная жонка — свецкая львіца — ад каня і кенгуру не ў захапленні. Але ад сабачкі не адмовілася б, якраз для ўдзелу ў конкурсе прыгажосці з актуальнай тэмай — «Дама з сабачкам».

Характэрна, што рабочая назва п'есы — «Драма з сабачкам» — і сапраўды драма. Часы змяняюцца: цяпер важна не тое, што ты «блакітны», а тое, які колер сёння ў модзе. Гэта для іншых звяроў лайкі — проста сабачкі такія, а ў каралеўскай сям'і пытанне папулярнасці ледзь не прыводзіць да разводу. Але, нягледзячы на наяўнасць новых герояў і сучасны антураж, галоўнай тэмай застаецца ўсё тое ж пытанне: «А ці так дрэнна быць непадобным да астатніх»?

Над пастаноўкай працавала каманда, праверанная часам і мноствам удалых сумесных тэатральных работ. Асноўныя сюжэтныя лініі, а таксама новых герояў прыдумалі Юрый Энцін і Генадзь Гладкоў. Лібрэта напісала рэжысер «Тэрыторыі мюзікла» Настасся Грыненка. Яе намаганнямі спектакль імгненна разлятаецца на цытаты: «Ідзіце сюды і атрымайце скандал», «Не магу хлусіць, калі мяне так бессаромна слухаюць». У прачытанні Настассі Грыненка вобразы нават старых герояў набываюць новую інтэрпрэтацыю. Блакітны шчанюк паранейшаму добры, наіўны, але пры гэтым вельмі смелы: пакуль Бывалы Марак плавае ў роздумах, што б яму зрабіць добрага, ён самастойна арганізуе ўцёкі і нават маленькае паўстанне.

За афармленне сцэны адказваў Андрэй Меранкоў, які не раз ужо даказаў, што здольны зрабіць шматфункцыянальнай нават звычайную шафу (мюзікл «12 крэслаў»). А маленькая сцэна дыктуе свае ўмовы: тут не разгорнешся з масіўнымі дэкарацыямі, не можаш іх часта мяняць за адзін акт.

Сцэнаграфія «Блакітнага шчанюка» простая, але эфектная. Джунглі з тканіны лёгка ператвараюцца ў востраў шчанюкоў. Над сцэнай вісіць галава льва, грыва замяняе сонца. І нават звычайная суперзаслона здзівіць гледача, ператварыўшыся ў клетку.

Акцёры адпавядаюць дэкарацыям — яркія, не падобныя да людзей. Касцюмы фантазіі Юліі Бабаевай — гэта не футравыя шапкі і хвасты. Хутчэй — паказ мод на сцэне. Гэта ўплывае і на гульню акцёраў, бо недастаткова проста апрануць касцюм, каб глядач убачыў звера (якога, як лічыцца, перайграць немагчыма).

Ролю галоўнага героя выконвае Ілона Казакевіч, знаёмая гледачам па зусім процілеглых вобразах: пяшчотнай ранімай Лізанькі са «Сватаўства гусара», высакароднай, палкай Дзіяны ў «Сабаку на сене».



Сцэна з мюзікла.

Каралеўскую пару ўвасабляюць Эдуард Вайніловіч і Наталля Глух. І абодва яны з цяжкасцю пазнаюцца ў новых ролях. А вось Аляксей Кілеса, знаёмы гледачу па ролі Трыстана ў «Сабаку на сене», зноў паўстае ў выглядзе абаяльнага хітруна. Яго Чорны Кот — інтэлігент ледзь не блакітнай крыві, амаль што дварэцкі пры каралі, але пры гэтым хітры, разважлівы і імкнецца да славы.

Пасля прагляду мюзікла ўзнікае толькі адно пытанне: «А ці можна назваць гэты спектакль дзіцячым»? Досвед паказвае, што ні Гладкову, ні Энціну, ні Грыненка не ўласціва працаваць толькі ў адны вароты. Таму дапіска — мюзікл для ўсёй сям'і — чыстая праўда. Дзяцей пацягне захапляльная прыгодніцкая гісторыя з пагонямі і ўцекамі, а дарослыя знойдуць шмат актуальных, надзённых адсылак і жартаў.

Сэнс жа гэтай гісторыі са зменenымі і новымі героямі, песнямі, ідэямі будзе зразумелы для ўсіх. Не варта старацца быць падобным да кагосьці, бо ты выдатны і карысны сам па сабе. Пластычная аперацыя (будзе і яна!) не дазволіла Кату дамагчыся кахання Свецкай Львіцы, а вось шчырасць і дабрыня Шчанюка дапамаглі знайсці новых сяброў.

На адным з паказаў прысутнічаў аўтар вершаў Юрый Энцін. Перад спектаклем паэт сустрэўся з журналістамі, дзе расказаў аб працы над пастаноўкай і ідэі для наступных спектакляў. Так што цалкам магчыма, што нас чакае яшчэ не адна сумесная праца «Тэрыторыі мюзікла», Генадзя Гладкова і Юрыя Энціна.



Фота Анжалікі Граковіч.

Юрый Энцін разам з артыстамі падчас прэм'еры.

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# Хлапчукі і дзяўчаткі, а таксама іх бацькі…

## Пра выхаванне — з музыкай. Прапаноўваюць паразважаць летам

**Калі большасць тэатраў для дарослых не працуе (праўда, зацятыя тэатралы ўсё ж могуць для сябе знайсці спектаклі ў Купалаўскім, Музычным тэатры, Маладзёжным ці тэатры-студыі кінаакцёра ды СМТ), ёсць цудоўная нагода звярнуцца да тэатра сямейнага. Тут якраз дарэчы прэм'ерны спектакль-камедыя «Сямейны ўікенд» у Маладзёжным тэатры. І ёсць шэраг спектакляў музычных, дзе не павінна быць сумна малым, і ў дарослых ёсць магчымасць узгадаць дзяцінства, летнія канікулы і прыгоды, якія могуць здарыцца, калі раптам узнікае шмат вольнага часу.**

### ЛЕПШАЯ Ў СВЕЦЕ НЯНЬКА — У МУЗЫЧНЫМ ТЭАТРЫ

Прэм'еру шоу-мюзікла «Мэры Попінс» Максіма Дунаеўскага ажыццявіў Міхаіл Кавальчык у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Нават тыя, што памятаюць цудоўны фільм «Мэры Попінс, да пабачэння!», не будуць супраць таго, каб паслухаць цудоўныя песні, якія сталі сапраўднымі хітамі для некалькіх пакаленняў. Але і тут ёсць нечаканасці: у фільм увайшлі не ўсе творы Максіма Дунаеўскага. Але ўсе разам музычныя нумары, створаныя кампазітарам для фільма, можна пачуць у спектаклі, лібрэта якога напісалі драматург Вячаслаў Вербін і паэт Навум Олеў.

Пра тое, як адна незвычайная гувернантка можа змяніць жыццё ўсёй сям'і, цікава будзе паглядзець і татам з мамамі, і іх дзецям, якія і не здагадваюцца, што ў бацькоў калісьці маглі быць строгія выхавацелі, што вынішчылі разуменне пра нармальныя дзяцінства. Лэдзі Мэры нагадае пра яго ўсім. А таксама пра тое, як выхаваць добрых дзяцей: гэта цяжка зрабіць без бацькоўскай увагі і любові, без уласнага прыкладу. Таму шоу-мюзікл няхай і ў лёгкай форме, але ўзнімае да волі сур'ёзныя пытанні ўзаемаразумення паміж бацькамі і дзецьмі. Пра што і хацеў разважаць рэжысёр-пастаноўшчык. Ролю лепшай у свеце нянькі, бліскуча выкананую ў кіно Натальляй Андрэйчанка, у музычным тэатры іграюць заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Маргарыта Александровіч і Вольга Здзярская.

Прэм'ера спектакля адбылася 14 ліпеня.

### КАРЛСАН ПРЫЛЯТАЕ Ў СМТ

Сучасны мастацкі тэатр летам перахоплівае ініцыятыву ў кірунку дзіцячых пастановак. Іх тут прапануюць некалькі: ад рамантычнай «Папялушкі» да «Прыгод у Прастаквашына». Але павінна зацікавіць як дзяцей, так і дарослых музычная казка «Проста Карлсан». Казка Астрыд Ліндгрэн пра Малога і яго сябра, які сам сябе называў «мужчынам у поўным роскввіце сіл», падыходзіць для паходу ў тэатр сям'ёй. У ёй ёсць і гумар, якога хочацца дзеля адпачынку, ёсць інтэрактыў, калі артысты кантактуюць з залай і робяць гледачоў саўдзельнікамі прыгод. Акрамя таго, разам можна шукаць адказы на некаторыя пытанні герояў. А вы яшчэ памятаеце, хто лепшы ў свеце выдумшчык? А хто лепш за іншых скарае домакатавальніц?.. А вашы дзеці ведаюць адказы на гэтыя і іншыя вельмі актуальныя для іх пытанні?

Чым яшчэ добрая гэтая гісторыя нават для тых, хто не паспеў у тэатр? Усё гэта можна яшчэ і прачытаць…

**Марыя АСІПЕНКА**

Памяць

# Належыць мастацтву



Вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», які працаваў тут з першых дзён і да канца жыцця, стваральнік харызматычных, дакладных, канцэнтраваных вобразаў у шматлікіх спектаклях і карцінах... Заслужанаму артысту Рэспублікі Беларусь Пятру Пятровічу Юрчанкову (старэйшаму), ураджэнцу Брэста, споўнілася б 8 ліпеня 65 гадоў...

Акцёр добра ўмеў перадаваць светаадчуванне не проста аднаго персанажа, а цэлай эпохі. У ліку яго лепшых кінакарцін — «Вянок санетаў», «Час выбраў нас», «Выклік», «Бесы», «Звон лета, што адыходзіць», «Вазьму твой боль», «Дзяржаўная мяжа», «Антаніна Брагіна», спектакляў — «Усё яго жыццё», «Выкраданне Алены», «Таленты і прыхільнікі», «Камедыя пра Лісістрата», «Саракавыя...». Што і казаць, складана вылучыць лепшае, бо Пётр Юрчанкоў заўсёды лічыў, што трэба іграць альбо геніяльна, альбо ўвогуле не выходзіць на сцэну. Заўсёды хварэў за мастацтва і аддаваў сябе працы па максімуме, не шкадуючы.

Пятра Юрчанкова шчыра любілі гледачы. Ён пражываў кожны адлюстраваны ім лёс з поўным спектрам эмоцый. Як сапраўдны артыст, шчыра верыў і любіў, раскрываючы не толькі імгненныя змены настрою, а ўвесь дыяпазон характараў герояў. Тэмперамент і пранікнёны голас, шырыня натуры і рамантычнасць, жыццялюбства і пачуццё гумару заўсёды дапамагалі акцёру.

Калегі ведалі яго не толькі як прафесіянала, а і як чалавека з неверагодна светлай энергетыкай, які ніколі не перагружаў іншых сваімі праблемамі, не ўмеў зайздросціць чужому поспеху. Такі няўлоўны і чысты нораў, выдатная інтуіцыя. Пісаў вершы і любіў казкі.

У яго творчай біяграфіі — дзясяткі тэатральных роляў і больш за трыццаць фільмаў.

У 2011 годзе артыст атрымаў прыз Беларускага саюза тэатральных дзеячаў «Крыштальная зорка» за вялікі ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва.

**Марыя ВОЙЦІК**

Праекты

# У аблоках

## Пакуль не фільм, але ўжо трэйлер

Гучная інфармацыя пра здымкі серыяла «Трымайся за аблокі» (альбо ўжывалася яшчэ назва «Дацягнуцца да нябёсаў») актыўна абмяркоўваецца ўжо паўгода. Сцэнар гэтага фільма быў зацверджаны ў выніку праведзенага адкрытага рэспубліканскага конкурсу кінапраектаў у 2015 годзе. Амаль адначасова з працай над фільмам напрыканцы мінулага года пайшлі рэпартажы са здымачных пляцовак, паведамленні пра актыўную працу над іграваым серыялам з 8 серый. І вось здымачная група зноў заінтрыгавала — на гэты раз трэйлерам карціны, які можна знайсці і пагладзець у сетцы інтэрнэт. І гэта ўжо для нас кінанавіна.

Прыгожая панарама беларускіх краявідаў — такія бязмежныя нашы лясы, а на фоне іх узвышаюцца лініі электраперадач. Мужны мужчына (як жа інакш?) лезе ўверх па высокай лесвіцы (Божухна, толькі б утрымаўся!). Лесвіца высунутая, таму нетрывалая. Трымацца можна хіба што за аблокі…

Але яшчэ і кадры «зямныя»: людзі на працы ў форменнай вопратцы, людзі ў кабінетах, суровыя і напружаныя. Усё такое знаёмае з жыцця. Зразумела: гэта сацыяльна значнае кіно. Ужо можна ўявіць, якім будзе тэлефільм, прысвечаны працы «ЛЭПаўцаў», што здымае рэжысёр Раман Гапанюк на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Хіба не мужныя і дасведчаныя тыя, хто працуюць на вышыні і пад пастаянным электрычным напружаннем? Але ж гэта людзі, і ім не чужыя ніякія чалавечыя пачуцці. Падчас серыяла глядач будзе сачыць за працай брыгады Уладзіміра Кавалёва і захапляцца тым, як у штодзённым жыцці энергетыкі дапамагаюць адзін аднаму ў канкрэтных справах. Гэта паводле сцэнарыя. Трэйлер выдае моманты чалавечых «напружанняў» — відаць, дзеля інтрыгі.

Але само з'яўленне серыяла, пра які столькі гаворкі, — яшчэ адна інтрыга. Пакуль зманціраваны 3 серыі. Над астатнімі будзе працягвацца здымачная праца.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Сцежкамі волатаў, думкамі Оруэла

## Фільмы тыдня. На што варта схадзіць?

**Сярэдзіна лета ў кінатэатрах сталіцы атрымалася даволі markрознабаковай, амаль на любы (акрамя аматараў арт-хаусу) густ: па жанрах, тэматыцы, настроі. Зразумела, многія фільмы разлічаны на непатрабавальны, разняволены вечар з папкорнам, пра што і клапоцішча маскульт. Але мы выбралі тое, на што можна (і рэкамендавана) схадзіць, каб пераасэнсаваць нешта ў жыцці. Тут вам і брытанская меладрама праператваральную сілу кахання і ўвогуле чалавечнасць, і стыльная, у бела-шэрых дэкарацыях будучага, антыўтопія ў духу Замяціна і Оруэла, і добрая мультфантазія ад самога Стывена Спілберга.**

### 1. РАМАНТЫКА АЦАЛЕННЯ

Памятаеце добрую камедыю «1 + 1» Аліўе Накаша і Эрыка Таледана пра сяброўства багатага арыстакрата, прыкаванага да інваліднага крэсла, і хуліганістага, нязграбнага юнака, які толькі што выйшаў з турмы? Але справа не столькі ў дружбе. Проста людзі, сустрэўшыся, могуць вылечваць адзін аднаго, дарыць надзею і напаўняць жыццё сэнсам. Гэта і ёсць праява так званай сацыялізацыі. Новы фільм пра імкненне да чалавечнасці і барацьбу з эгаізмам — «Да сустрэчы з табой».



Назва ўжо падказвае, што тут не абышлося без рамантыкі. Але яна, пры ўсёй прастаце, далёка не банальная і не «прыцягнутая за вушы», як гэта часта бывае ў меладрамах апошнім часам. У цэнтры сюжэта — маладая правінцыйная ўсмешлівая дзяўчына Луіза, якая страціла працу (Эмілія Кларк) і юнак Уіл (Сэм Клафлін), спартсмен, што не можа акрыяць пасля аварыі. Яго збіў матацыкліст, ён паралізаваны, а яна, уладкаваўшыся працаваць сядзелкай, напаўняе яго дні новымі фарбамі. Ужо не хочацца думаць пра эўтаназію і роспач — наперадзе вялікая дарога, моцная дружба і... пачуцці, якія акрыляюць два адзінокія сэрцы. Рэжысёрскі дэбют у кіно тэатральнага рэжысёра Тэа Шэрак, вядомай у вядучых лонданскіх тэатрах, атрымаўся. Пра гэта кажуць і крытыкі, і гледачы. Хімія ёсць, бо гісторыя трымае да апошніх хвілін. Жыццярадасна, кранальна, мудра.

### 2. ГАРМОНІЯ РОЎНАСЦІ?



Грамадства стэрыльнай аўтаматызаванай будучыні з антыўтапічным падтэкстам паказваецца ў фільме «Роўныя» Дрэйка Дорымуса з Крыстэн Сцюарт і Нікаласам Холтам у галоўных ролях. На гэты раз сучасны свет паўстае перад намі як супольнасць аднолькавых спакойных, мірных жыхароў, што непадуладныя эмоцыям. Яны паслухмяна ходзяць на манатонную працу ў ідэнтычных белых касцюмах, не радуюцца і не злуюцца, любяць, відаць, малекулярную кухню і сэнсарныя дысплэі.

Але, па правілах жанру, знаходзяцца дысідэнты, і гармонія парушаецца. Каханне пазіцыянуецца як вірус. Міласэрнасць — як забаронены плод. Выгнанне з «Раю» чакае герояў — за сумневы ў яго ідэальнасці. Сітуацыя накаляецца, бо, калі хтосьці ўбачыць, што ты плачаш альбо смяешся, цябе наўрад ці змогуць знайсці… Жывым. Ці палохае гэта ізгояў? Наўрад ці. Яны знаходзяць адзін аднаго і хаваюцца, кідаючы выклік сістэме. Чалавек заўсёды імкнуўся да волі. Гэта яго стыхія. Не чакайце ад фільма наступнага «Дывергенту» з яго экшэнам, бо «Роўныя» сканцэнтраваны на гісторыі двух, павольнай і ўдумлівай. Рамэа і Джульета ў оруэлаўскіх дэкарацыях. Дарэчы, фільм быў намінаваны на «Залатога льва» на Венецыянскім кінафестывалі.

### 3.ВЯЛІКІЯ ПРЫГОДЫ



Новае тварэнне ад аднаго з самых знакамітых рэжысёраў ЗША, Стывена Спілберга, далёка ад сур'ёзнасці «Спіса Шындлера» разам з «Лінкальнам» і нават «Шпіёнскім мостам». Затое — у ім цудоўная атмасфера прыгодаў у традыцыях «Індыяны Джонса» і «Іншапланецяніна». Гаворка ідзе пра мультфільм «Вялікі і добры волат», знятым па кнізе Раальда Даля. Дзяўчынка Сафі з прытулку, якая пакутуе на бессань, заўважае аднойчы ў акенцы велікана, які дзьме ў вокны спальняў, раздаючы дзецям добрыя сны. Няцяжка здагадацца, што героі знаёмяцца і адпраўляюцца насустрач вялікім подзвігам. Фільм вельмі нагадвае «Капітана Крука» (зноў жа ад Спілберга) альбо «Хронікі Нарніі». Шчырае, лёгкае, бесклапотнае кіно з цудоўнымі фантастычнымі дэкарацыямі, гарманічнай колькасцю спецэфектаў, мностам пацешных слоў кшталту «дурцоў» ці «моргалак» (спадабаецца маленькім) і добрым пасылам.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Сюжэт для музыканта

**Ён выходзіць на сцэну аддаць належнае неабходнасці, якая яшчэ не выспела.
Ці не тое самае — схіліцца над кветкай, якая не вырасла?
Ці не тое самае — напоўніць сэнсам дзень, які яшчэ не нарадзіўся?
Нябачная ахова будучыні. «Начная варта» пры татальнай дрымоце.
Нехта павінен не спаць у ціхамірна-дрымотным каралеўстве…**

Гэта зусім не жарты: аднойчы апынуўшыся сам-насам з публікай, утрымліваць яе. Не жарты — у асяроддзі вядомых імёнаў стварыць поле прыцягнення да сваёй асобы. Не жарты: абвясціўшы філарманічнай афішай свой чарговы сольны канцэрт, паабяцаць падзею.

Артысты-выканаўцы любяць публіку не менш, чым публіка іх. Жыццё ў дыялогах і ўзаемных прыязнасцях — частка прафесіі. Струна ўзаемнай неабходнасці. Энергетычны абмен і супадзенне. Таямніца.

Уласная харызма — тонкі інструмент спакушэння. Зманлівая гульня. Пашанцуе застацца пераможцам хіба што ў абліччы клоўна.

Здабытае за морам лаўрэацтва — годная прынада для ўвагі. Дасведчаная публіка любіць моцных духам і лаўрэацтву аддае належнае.

Высакароднае намаганне трымаць працяглы дыялог — давер. Давер і шчырасць, якія, па законах сцэны, толькі ўзмацняюцца. Стомлены штодзённасцю чалавек прагне прыйсці на створанае месца сілы і напоўніць новымі сэнсамі і матывамі пустыя кашы эмацыянальнай вобразнасці. Сэрцу добра, лагодна, шчасна. Гаючае месца. Застаецца выйсці на сцэну. Артысту. Піяністу. Музыканту.

Перад тым прыляцець… прыкладам, з Амстэрдама… І прызямліцца, прыкладам, у Мінску… Кінуць позірк на сваю афішу: **«Белдзяржфілармонія. Віталь Стахіевіч».**

## Перпендыкулярнае Камароўцы

Нехта любіць хадзіць па лесе. Збіраць грыбы. Выціскаць з сябе гарадскую стому, пазбаўляцца набрынялых, нібы водарасці, пазык. Лес разгушквае дымлівы тлум і пакідае цішыню.

…Нехта любіць хадзіць у бібліятэку. Збіраць інтэлект. Расчароўвацца ў навінках і дазваляць сабе раскошу ўпасці ў карункавую адмысловасць прозы. Супасці з тэмпарытмам бездакорнага Марсэля Пруста і падпарадкавацца яму. Квіток-дазвол на ўваход пад чароўныя шаты. Без шкадавання знікнуць, страціць сябе, з удзячнасцю загразнуць, нібы пчала, у тугой і няспешнай прозе «под сенью девушек в цвету». І, быццам узняты кімсьці над зямлёй, назіраць, як ці то прустаўскі бэз праплывае паўз цябе, ці то ты плывеш уздоўж алеі прустаўскага саду…

*«…У дзяцінстве я забіваў час тым, што падрабязна вывучаў афішы філармоніі. А тады яны былі вялізныя, памерам з невялікія дамы, такія, што прозвішча ПЛЯТНЁЎ або АЛОЎНІКАЎ можна было расчытаць ледзь не ад Камароўкі…» (з інтэрв'ю В. Стахіевіча.)*

На мінскую Камароўку хадзіць штотыднёва — чым не рытуал? Прайсці праз тлумнае метро — чым не адзін з кругоў? — дазвол на ўваход. Квіток. А рады-кругі Камароўкі? А бліскавіцы ў чорных вачах гандляроў, прагныя сустрэчы з шызашэра-блакітным позіркам тутэйшых пакупнікоў? З позіркам невынішчальнай тутэйшай безнадзейнасці, зацярушанай бяздоннай смугой?

Прайшоўшы кругі, дасягнуць мэты: прывітацца з даўно знаёмай кабетай з-пад Слуцка, пачуць апошнія слуцкія навіны, прыгоды каровы Ратунькі і набыць тварог 100% тлустасці, загорнуты ў лапіну малочнага колеру. Ну, і смятаны тады!..

У Амстэрдаме клопатаў не менш, чым у Слуцку. Амстэрдам адпускае толькі два разы на год. Калі ў студэнтаў вакацыі. Зноў жа — абавязкі, пазыкі, празаічныя неабходнасці. *«У Амстэрдаме кожны дзень насычаны канцэртамі, заняткамі ў кансерваторыі, дзе я ўжо колькі год працую канцэртмайстрам, з прыватнымі вучнямі. Але найперш я адчуваю сябе канцэртным піяністам, і падставы так лічыць у мяне ёсць» (з інтэрв'ю В. Стахіевіча).*



Піяніст Віталь Стахіевіч.

Фота Ядвігі Адамчык.

Проза застаецца ў Амстэрдаме. Амстэрдаму. Паэзія рыхтуецца да прыезду ў Мінск. Горад набытага майстэрства, дбайнага вучнёўства. Горад старых сяброў і настаўніка-сябра, якім усцешна ўбачыць на афішах: **Белдзяржфілармонія. Віталь Стахіевіч. У праграме…**

### Мендэльсон

Тут цішыня набыла аблічча. Падпарадкавалася выразнасці формы. Паўзы ўзвысіліся пытаннямі. Мендэльсон-Бартольдзі перастаў быць сімвалам сямейнасці і хатняй утульнасці ў музыцы (культ пакорлівай і скаронай сямейнай рамантыкі (Б. Астаф'еў)). Меркаванне Ф. Ніцшэ — «кампазітар Фелікс Мендэльсон-Бартольдзі — зіхоткая выпадковасць нямецкай музыкі» — пацьмянела. «Сур'ёзныя Варыяцыі» ор. 54 Ф. Мендэльсона-Бартольдзі красавіцкім вечарам XXI стагоддзя сталі касмічнымі. Паветрам далёкіх планет. Без цені мінулага, без абрыс будучыні. Сэнс — сама недасяжнасць, з зачараванай глыбінёй і бяздоннем. Яе прысутнасць. Ва ўтульнай камернасці філарманічнай залы. Шчасце празіхацела імгненнем…

### Бетховен

…Тэмы бетховенскіх санат антрапаморфныя. Не выключэнне і тэмы Санаты № 3 До мажор, ор. 2. Для лепшага гучання, для свабоды перамяшчэння бетховенскай гукавой масы неабходна вялікая зала. Высокая музыка патрабуе спецыфічных акустычных умоў. І — невялікай колькасці прысутных. Не больш, чым прыхаджан царквы святога Фамы ў Лейпцыгу падчас першага выканання «Магніфіката» на Раство 1723 года. Намнога менш за тое, чым заклапочана маскультура. У прасторы, запоўненай вышынёй і глыбінёй, даўжэй ляціць гук. Ясней праяўляецца акордавая готыка. Дакладней высвечваецца паўза. Музычная думка і вобраз не абцяжарваюцца пабочнымі эфектамі. Фраза разгортваецца няспешна, як патрэбная старонка кнігі.

### Рахманінаў

Ці не падмянілі раяль? Адкуль такі мяккі ніжні рэгістр? Ахінальная глыбіня басоў? Цеплыня і кранальнасць басовых тэмбраў? Чароўнае і няспешнае перамяшчэнне гукавой руды там, дзе заўсёды ўзнікала капрызнае супраціўленне клавіш? Раяль — той самы. Гук — інакшы.

Музыцы для самавыяўлення многа не трэба. Дастаткова канцэртнай залы. Раяля. Таленту піяніста. Вызваленага вечара. Музыкі Рахманінава. Дастаткова, каб напоўніць прастору харастовам. Дастаткова, каб прайсціся чыстым дажджом па змарнелых і засмяглых «камароўскіх» душах. Дастаткова, каб вярнуцца да касмічных прапорцый твораў Мендэльсона, Бетховена, Рахманінава.

### Сюжэт для музыканта. Канцэрт-галерэя

Музыкант, які любіць падарожнічаць. *«Каб я заўсёды заставаўся ў Мінску, мой светапогляд быў бы інакшым» (з інтэрв'ю В. Стахіевіча).*

Музыкант, які піша вершы:

*«Самалётнае лета —
Дажджы, навальніцы.
Колісь ўспомніцца гэта,
Колісь гэта прысніцца…»*

З такой рамантычнай душой чаму не распачаць музычныя падарожжы? Канцэртныя падарожжы ў музычнае мінулае: *«У буйных культурных цэнтрах і творчае жыццё значна цікавейшае, і стасункі між творчымі асобамі больш актыўныя» (з інтэрв'ю В. Стахіевіча).*

Пра гэта добра ведаў Віталеў калега з васямнаццатага стагоддзя — малады магнат Мацей Радзівіл — такі ж аматар падарожнічаць, летуценнік, паэт і кампазітар. Рамантычным душам лёгка падарожнічаць разам. На досвітку, дзе-небудзь у сярэдзіне васямнаццатага стагоддзя (~ 1760 г.), можна дазволіць сабе пакінуць Нясвіж, прыхапіўшы прысутных у канцэртнай зале, гэтакіх жа апантаных падарожжамі і музыкай слухачоў. І на чорным крыле раяля, адухоўленым магіяй ігры Віталя Стахіевіча, скіравацца па шырокім гасцінцы ў старую музычную Еўропу. Пачуць музыку вуліц славутых гарадоў, музыку замкаў і палацаў. Да драбніц вывучыць галоўную свецкую літургію XVIII стагоддзя — оперу. Затрымацца ў Дрэздэне — «Фларэнцыі на Эльбе», тады сталіцы Саксоніі і цэнтры музычнай Еўропы, дзе «ткалі» для вечнасці свае партытуры М. Прэторыус, Г. Шутц, В. Ф. Бах, Г. Ф. Тэлеман, а ў палацах і парках ладзіліся «святы муз». Наведаць універсітэты Германіі, Італіі, Францыі. У Празе, Гданьску прагледзець спектаклі італьянскіх оперных тэатраў і паслухаць аркестры — адным словам, пазнаёміцца з апошнімі дасягненнямі тагачаснага музычнага мастацтва…

Праз 10 гадоў Мацей Радзівіл вернецца ў свой Нясвіж. Пройдзе яшчэ колькі часу, і ў Нясвіжы расквітнее балетна-оперны тэатр, адновіцца капэла: па падлозе з дубовага наборнага паркета, мінаючы партрэтныя, мурмуровыя, гетманскія, бібліятэчныя галерэі, сорак чатыры артысты-музыканты штораніцы будуць спяшацца на рэпетыцыю лепшых твораў Д. Чымарозы, Д. Сарці, Я. Голанда. Узначальваць капэлу будзе запрошаны Джаакіна Альберціні, спявак, кампазітар, дырыжор. Прыйдзе час, і ён прадырыжыруе знакамітую «Агатку» Яна Голанда.

Мацей Радзівіл пазнаёміць нас з Карлам Капельмайстрам Радзівілам — бліскучым піяністам XVIII стагоддзя — Янам Уладзіславам Дусэкам. Абвінавачаны ў змове супраць імператрыцы Кацярыны II, ён вымушаны хавацца пад псеўданімам у рэзідэнцыі Радзівілаў. У Нясвіжы Ян Дусэк пакіне ўспаміны пра ігру з Ё. Гайднам, пра добразычлівасць Марыі Антуанеты, пра сваё нотнае выдавецтва ў Лондане. Уласным жыццём ён узвялічыць фартэпіяна, дасць пачатак дзейнасці піяністаў-віртуозаў, што канцэртуюць, паверне раяль бокам да сцэны і першым пазначыць фартэпіянную педаль у нотах. Ён паспее пабыць канцэртмайстрам у скрыпача пад імем Напалеона Банапарта і прысвяціць шэраг фартэпіянных санат дачцэ П. Бамаршэ. І, хто ведае, можа быць, нам пашанцуе, і магічны вецер музычнага падарожжа прынясе абрысы тых санат. Разам з імі — паланэзы-карціны, паланэзы-балады самога Мацея Радзівіла. Здарыцца цуд, і мы пачуем творы, якія апярэдзілі з'яўленне паланэзаў В. Казлоўскага, М. К. Агінскага, Ф. Шапэна.

Свайго аднадумцу, Міхала Клеафаса Агінскага, які, гэтаксама, як і Мацей Радзівіл, на свае грошы ўзброіў некалькі атрадаў

**На сваёй струне**



**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

для паўстання Тадэвуша Касцюшкі, мы наведаем далёка ад радзімы. Вольнае шуганне фантазіі перанясе ў Італію. Там, у Фларэнцыі, мы заспеем стомленага, задуменнага магната. Расчараванага. Рука звыкла да клавіятуры фартэпіяна. Былы сенатар перад пачаткам стварэння новага паланэза для Радзімы, з якой ён так і не здолеў развітацца…

…Рэха расчаравання адаб'ецца ў адным з парыжскіх салонаў, дзе Адам Міцкевіч сустрэнецца з Марыяй Шыманоўскай. Зірне на яе дачку. Збянтэжыцца пачаткам новага кахання. Там пачуем Фрыдэрыка Шапэна і пазнаёмімся з Напалеонам Ордам, станем сведкамі жартоўнага спаборніцтва сяброў. Ордаўскія паланэзы вернуць зноў у Беларусь…

Віталь Стахіевіч не хавае закаханасці ў Вільню(с) (адбыўся канцэрт піяніста з твораў Л. Абеліёвіча, які нарадзіўся ў гэтым горадзе), а таму падарожжа можна доўжыць. Прайсціся вулкамі Вільні разам з М. Багдановічам і пачуць раманс Яна Тарасевіча — першы ўзор Багдановічавай паэзіі пакладзены на музыку. Можна там жа завітаць на вуліцу Святой Ганны, дзе здымаў пакойчык Рыгор Шырма, і агучыць адну з ягоных апрацовак народнай песні, зробленай там жа ж, у Вільні, для хору студэнтаў. На раялі ў выкананні піяніста апрацоўка загучыць харалам Баха.

У Гародні на пачатку ХХ стагоддзя не праміне Зоську Верас. У Зэльве не прайсці міма дома Ларысы Геніюш. Для іх абавязкова знойдзецца нешта адмыслова музычнае. Іх вершы запатрабуюць новую музыку. І музыка сыдзе з неба.

У падарожным віры замігціць імя Паўліны Мядзёлкі. Памяць адновіць хвалёны Рыгорам Шырмам папулярны ў Заходняй Беларусі гімн Паўліны «Пад гоман вясёлы». А любімыя і спяваныя ёю песні «Каля хацінкі», «Саколікі» Станіслава Манюшкі павернуць падарожную віхуру ў Смілавічы, дзе і сёння кожную раніцу краіну будзяць незабыўныя смілавіцкія салаўі.

Праз музыку, часам бязважкую, часам летуценную, не толькі рамантычную, але і трагічную, паспрабуем яшчэ раз распавесці беларусам пра беларусаў. *«Акадэмічная музыка, створаная беларускімі кампазітарамі, не з'яўляецца, на жаль, чымсьці распаўсюджаным і агульнавядомым» (з інтэрв'ю В. Стахіевіча).*

***

Новыя красоўкі на лета? Трэба. Квіток на канцэрт Стахіевіча? Трэба! Тварог з-пад Слуцка 100% тлустасці паспець забраць таксама трэба! (Камароўка так прывабна-перпендыкулярна філармоніі! Як слуцкі тварог красоўкам…) Дык куды кіруем?

— Не падкажаце, як прайсці да?..

…Нехта збірае грыбы ў лесе. Нехта — інтэлект бібліятэк. Нехта — цішыню формы апошняга канцэрта.

# Да «Чыстых вытокаў»

## Больш за 50 работ мастакоў прысвечана прыродзе Смалявіччыны



Работа Наталлі Камінскай (Смалявічы).

Яны прадстаўлены на выстаўцы «Лета ў правінцыі» арт-пленэру мастакоў-педагагаў, выкладчыкаў школ мастацтваў, мастацкіх студый і ВНУ з Беларусі, Расіі і Казахстана. Пабачыць іх можна ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Гэта нібыта своеасаблівая справаздача: за 5 гадоў «Лета ў правінцыі» ператварылася ў вялікі праект, які аб'яднаў розных па ўзросце і характары творчасці мастакоў.

— Перш за ўсё стараешся перадаць веды і ўменні дзецям, нашым вучням, і часу на сваю творчасць ужо не хапае, — расказала куратар пленэру, загадчык мастацкага аддзялення Смалявіцкай дзіцячай школы мастацтваў Наталля Камінская. — Каб крыху выправіць сітуацыю, наша каманда і збіраецца для сумеснай працы на смалявіцкай зямлі. Мы натхняемся краявідамі, праводзім час разам, атрымліваем магчымасць ствараць, каб пакінуць карціны нашчадкам.

Ідэя зрабіць Смалявіччыну больш вядомай і прыцягальнай для людзей, перш за ўсё для жыхароў Беларусі, гучала як ад арганізатараў (сярод іх — Смалявіцкі раённы выканаўчы камітэт), так і ад саміх мастакоў. Кожны год пленэр мае адмысловую назву. Напрыклад, пленэр, прысвечаны мясцінам баявой славы, называўся «Сцежка памяці». Храмам і кляштарам, якія знаходзяцца на Смалявіччыне, прысвячаўся пленэр «Родныя святыні». Назва пленэра сёлета — «Чыстыя вытокі». Маляўнічыя палотны ўпрыгожвае водная роўнядзь. У мастакоў была магчымасць ствараць ля рэк і азёраў, у спакойным месцы, з асалодай ад жывой прыроды.

Выкарыстоўвалі у розныя тэхнікі і матэрыялы. Хоць пейзажы і на адну тэму, але розныя. Вывы рэк і азёр перадаюць спакой і ўпэўненасць. А старыя хацінкі, якія таксама часта адлюстраваныя на палотнах, нагадаюць пра дзяцінства: бабуля, вёска.

Аўтары шчодра дзеляцца эмоцыямі. На адкрыцці адзначалася важнасць правядзення выстаўкі менавіта ў бібліятэцы: гэта храм культуры, і пераважае асветная місія. Удзельнікі пленэру плануюць развівацца далей. Сутнасць праекта не толькі ў тым, каб паказаць прыгожыя мясціны Беларусі — мастакі распавядаюць пра Смалявіцкі край, які ў будучыні можа стаць прыцягальным культурным месцам краіны.

Неабыякавасць каманды арганізатараў і ўдзельнікаў да развіцця свайго краю натхняе: хочацца неадкладна сабраць рэчы і ехаць даследаваць незнаёмыя мясціны. Альбо вярнуцца. Туды, дзе нарадзіўся, дзе прайшлі першыя гады, адкуль з'ехаў так даўно, што ўжо і не згадаць без дадатковага напаміну, як выглядалі родныя вулачкі, дарожкі, лясочкі. Кожны з аўтараў імкнецца не проста натхніць гледача, а прапануе правесці наступнае лета менавіта ў правінцыі.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**



Работа Таццяны Меркуль (Узда).

## Культурны ракурс

Лета — пара падарожжаў. Прапаную наведаць старажытны горад Гомель, галоўнай славутасцю якога можна назваць Палац Румянцавых і Паскевічаў — помнік архітэктуры XVIII — XIX стагоддзяў, кампазіцыйны цэнтр Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Ён уключае, апроч палаца, гарадскі парк, Петрапаўлаўскі сабор, капліцу — магільны склеп і інш.



Помнік Мікалаю Румянцаву ля ўвахода ў палац.

Палац быў узведзены на месцы драўлянага замка ў 1777 — 1796 гадах рускім палкаводцам Пятром Румянцавым, якому імператрыца Кацярына II падаравала Гомель «для забавы». Архітэктарам палаца, хутчэй за ўсё, быў Іван Староў, які праславіўся будаўніцтвам Таўрыйскага палаца, Казанскага сабора і Троіцкага сабора Аляксандра-Неўскай лаўры ў Санкт-Пецярбургу.

Пасля смерці Пятра Румянцава палац атрымаў у спадчыну яго сын — вядомы дыпламат, дзяржаўны дзеяч і мецэнат Мікалай Румянцаў, вакол якога склаўся так званы «румянцаўскі гурток» — суполка дзеячаў мастацтва і культуры, навукоўцаў. У 1826 годзе М. Румянцаў памёр, і палац перайшоў яго брату Сяргею, які праз два гады аддаў маёнтак у заклад, а пазней прадаў у казну. У 1834 годзе палац за 800 тысяч рублёў быў выкуплены вядомым рускім палкаводцам Іванам Паскевічам. Пры ім правялі рэканструкцыю і разбілі раскошны парк.

Апошнія ўладальнікі маёнтка — сын фельдмаршала Фёдар Паскевіч і яго жонка Ірына. Пасля рэвалюцыі палац быў канфіскаваны, і яго калекцыі сталі асновай створанага ў 1919 годзе Гомельскага абласнога краязнаўчага музея, а Ірыну Паскевіч перасялілі ў невялікую кватэру.

У 1995 годзе было прынята рашэнне правесці рэстаўрацыйныя работы, у выніку чаго аднавілі інтэр'еры пакояў палаца XVIII — XIX стагоддзяў.

Абавязкова наведайце Палац Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі — атрымаеце шмат незабыўных уражанняў.

**Таццяна НЯДЗЕЛКА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы раб от будуць улічваць не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 21.07.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1649.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2586

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686